ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№12 (153) снежань 2023 год

CATHOLICNEWS.BY

## Калі пакой ператвараецца ў касцёл


Стар. 7

## “Нашыя сэрцы палаюць аднолькава”. З будняў каталіцкай сям’і


Стар. 10

## Цуд на Каляды


Стар. 4-5



**Паважаныя браты і сёстры ў Хрысце, шаноўныя суайчыннікі!**

*“... Нарадзіўся вам сёння ў горадзе Давіда Збаўца, Які ёсць Хрыстус Пан. І вось вам знак: знойдзеце Немаўля спавітае і пакладзенае ў яслях”. (Лк 2,11-12).*

Словы надзеі, якія абвясціў нябесны пасланнік пастушкам, Касцёл абвяшчае сёння нам: нарадзіўся вам сёння Збаўца, Які ёсць Хрыстус Пан! Нарадзіўся сёння, тут, сярод нас. Так, насамрэч Ён заўсёды прысутны ў гэтым свеце, бо паабяцаў калісьці апосталам, што не пакіне нас сіротамі і застанецца з намі. Але дазваляе нам зноў і зноў перажываць падзею свайго нараджэння, каб мы маглі адчуць тую радасць, якую адчуваюць бацькі, калі ў іх з’яўляецца нованароджанае дзіця.

Нараджаецца Крыніца і Даўца жыцця ў людскім целе. Прыходзіць у свет, які амаль страціў пачуццё адказнасці за чалавечае жыццё. У свет, дзе гэтае жыццё не каштуе ўжо амаль нічога, становіцца разменнай манетай, сродкам для рэалізацыі чужых амбіцый, дзе так легкадумна і мы нярэдка ставімся да гэтага найвышэйшага Божага дару.

Таму Бог сам пажадаў стаць чалавекам, каб дапамагчы нам заставацца людзьмі. Найпрасцей гэта зрабіць, гледзячы на прыклад жыцця Езуса і Яго сям’і. Не каб капіяваць яго “адзін у адзін”, але навучыцца прынцыпу, паводле якога жыў Езус, – прынцыпу міласэрнай любові. Ён нарадзіўся ў стайні, сярод жывёлаў, адчуўшы ўжо з самага свайго нараджэння абыякавасць і холад людскіх сэрцаў, прыйшоў, каб нарэшце памерці на крыжы, але не для таго, каб пакараць гэты свет. Ён прыйшоў яго ўратаваць, даць надзею і навучыць “не адплачваць злом за зло, але рабіць заўсёды дабро адно аднаму і ўсім. Заўсёды радавацца, няспынна маліцца. За ўсё дзякаваць, бо такая адносна нас воля Божая...” (пар. Тэс 5, 15-18).



Змяняецца час і змяняюцца людскія пакаленні, змяняецца свет і яго выклікі, але нязменнай застаецца чалавечая натура з яе слабасцямі, як і нязменным застаецца Бог з Яго міласэрнай любоўю да чалавека. Паспрабуйма чарговы раз адчуць яе, схіляючыся над Бэтлеемскімі яслямі, дзе ляжыць маленькае Дзіця, прыносячы для нас па-сапраўднаму трывалыя і вечныя каштоўнасці. Паспрабуйма чарговы раз на гэтых каштоўнасцях будаваць нашае цяперашняе жыццё і нашую будучыню!

Згоды і паяднання, супакою і здароўя, мірнага неба на галавою і Божага блаславлення ва ўсіх добрых справах кожнаму з Вас, Вашым сем’ям і ўсёй нашай краіне Беларусі!

Радасных Святаў Божага Нараджэння і шчаслівага Новага 2024 года!

***+ Алег Буткевіч***
***Біскуп Віцебскі***



## Падпісны індэкс – 63783

**Кошт падпіскі**
**на месяц – 1,71 руб.**
**на 3 мес – 5,13 руб.**
**на 6 мес – 10,26 руб.**



Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні “Белпошты”

## Божае Нараджэнне

*Ты зноў народзішся для нас,*
*Каб быць нам зоркай пуцяводнай.*
*Каб даць на ўсё нам Свой адказ,*
*Як стаць нам да Цябе падобным.*

*Ты зноў народзішся, каб грэх*
*Наш змыць Сваёй святой крывёю.*
*Каб кожны стаў, як белы снег,*
*Калі сустрэнецца з Табою.*

*Ты зноў народзішся, і мы*
*Чакаем ад заган збаўлення.*
*Чакаем, як глыток вады,*
*Твайго святога Нараджэння.*

***Даната Варабей (г. Мядзел)***



# Біскуп Буткевіч удзельнічаў у Пленарнай асамблеі Рады Канферэнцый Біскупаў Еўропы, якая прайшла на Мальце

**З 27 па 30 лістапада на Мальце праходзіла Пленарная асамблея Рады Канферэнцый Біскупаў Еўропы, у якой браў удзел Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, паведамляе catholic.by. Тэма асамблеі – "Новыя крокі для сінадальнага Касцёла ў Еўропе".**

Напачатку з уступным словам да ўдзельнікаў звярнуўся монсеньёр Марцін Міхалічэк, Генеральны сакратар Рады Канферэнцый Біскупаў Еўропы (РКБЕ), які прывітаў усіх прысутных і прадставіў праграму працы асамблеі. Святар адзначыў, што праца будзе весціся па трох асноўных кірунках: абнаўленне дзейнасці Сіноду Біскупаў, адносіны паміж Сінодам Біскупаў і наднацыянальнымі структурамі і абнаўленне Экуменічнага статута – сумеснага дакумента пра супрацоўніцтва паміж хрысціянскімі канфесіямі Еўропы, падпісанага ў 2001 годзе.

Да прысутных з прывітальнымі словамі звярнуліся арцыбіскуп Мальты Чарльз Шыклуна і арцыбіскуп Савьё Хон Тай-Фай SDB, Апостальскі нунцый на Мальце.

Пазней у рэжыме анлайн да прысутных звярнуўся кардынал П'ербатыста Піццабала, Лацінскі Патрыярх Ерузалема, які распавёў пра сітуацыю на Святой Зямлі.

Пасля яго з дакладам выступіў Старшыня РКБЕ арцыбіскуп Віленскі Гінтарас Грушас. Першы дзень працы завяршыўся цэлебрацыяй Эўхарыстыі ў конкатэдры святога Яна Хрысціцеля, якую ўзначаліў кардынал Марыё Грэк, Генеральны сакратар Сіноду Біскупаў.

28 лістапада кардынал Грэк выступіў перад сабранымі на Мальце дэлегатамі епіскапатаў Еўропы з дакладам аб Сінодзе Біскупаў, каторы пазней быў абмеркаваны ў працоўных групах.

У другой палове дня да Асамблеі звярнуўся прэфект Дыкастэрыі па справах біскупаў кардынал Робэрт Фрэнсіс Прэвост OSA. Кардынал Прэвост, нядаўна прызначаны кіраўніком Дыкастэрыі па справах біскупаў, упершыню ўзяў удзел у працы Пленарнай асамблеі Рады Канферэнцый Біскупаў Еўропы.

Наступным з дакладам выступіў кардынал Гжэгаж Рысь, арцыбіскуп Лодзі і чалец групы па абнаўленні Экуменічнага статута, які паведаміў пра важныя крокі ў гэтай справе.

Другі дзень працы завяршыўся цэлебрацыяй Эўхарыстыі, каторую ў базыліцы Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ўзначаліў кардынал Прэвост.



Раніцай 29 лістапада кардынал Жан-Клод Ольрыш, Генеральны рэлятар XVI Звычайнай Генеральнай асамблеі Сіноду Біскупаў, выступіў з дакладам аб адносінах паміж наднацыянальнымі структурамі і сінадальнасцю для новага місійнага імпульсу для Касцёла ў Еўропе. У другой палове дня прысутныя на Пленарнай асамблеі РКБЕ здзейснілі невялікую пілігрымку па месцах святога апостала Паўла ў Рабат.

Апостал Павел апынуўся на Мальце, калі яго карабель пацярпеў крушэнне ля берагоў выспы, у затоцы, якая цяпер носіць імя святога. Здарылася гэта ў 60-ым годзе пасля нараджэння Хрыста. Везлі апостала з Юдэі на суд у Рым. Суду ён падлягаў як прапаведнік хрысціянства, але, будучы па паходжанні рымскім грамадзянінам, не быў падуладны юдэям, і судзіць яго маглі толькі ў Рыме. На Мальце Павел прабыў тры месяцы. За гэты час ён паспеў шмат чаго зрабіць і, галоўнае, навярнуць мясцовых жыхароў у хрысціянства. Але на гасціннай выспе Павел не застаўся, хоць гэта выратавала б яму жыццё. Апостал усё ж адправіўся ў Рым, дзе быў асуджаны і прыняў мучаніцкую смерць.

Трэці дзень працы асамблеі завяршыўся Эўхарыстычнай цэлебрацыяй у катэдры святога Паўла ў Мдзіне, якую ўзначаліў арцыбіскуп Мальты Чарльз Шыклуна.

Пленарная асамблея завяршылася 30 лістапада выступленнем біскупа Мар'яна Крачаты, старшыні Камісіі біскупскіх канферэнцый Еўрапейскага Саюза, і монсеньёра Марко Гранчы, назіральніка Апостальскай Сталіцы ў Радзе Еўропы.

*Кс. Аляксей Ляшко, тэкст*
*Архідыяцэзія Мальты, фота*
*catholic.by*

# Незвычайныя яслі Божага Нараджэння ў Ватыкане

**Сёлетнія калядныя яслі на плошчы святога Пятра з'яўляюцца сапраўды незвычайнымі. Дзіцятка Езуса трымае не Марыя і не Юзаф, а святы Францішак.**

"Практычна паўтараецца тое, што адбылося 800 гадоў таму, калі Асізскі Бядняк пасля вяртання са Святой Зямлі вырашыў паставіць першыя ў гісторыі калядныя яслі", – распавёў Vatican News Энрыка Берсан, адказны за святочныя дэкарацыі на ватыканскай плошчы.

Адкрыццё батлейкі адбылося 9 снежня. Стваральнікі свядома спасылаюцца на сцэну, якая мела месца ў італьянскім Грэча 25 снежня 1223 года. Яны хочуць, каб пілігрымы задумаліся над сэнсам ініцыятывы святога Францішка.

Берсан падкрэсліў, што аўтары імкнуцца як мага больш дакладна ўзнавіць тое, што адбывалася ў санктуарыі ў Грэча, дзе святы Францішак рэалізаваў сваю незвычайную інтуіцыю. Таму было вырашана стварыць тэатральныя дэкарацыі. Для гэтага прыцягнулі найлепшых сусветных спецыялістаў з рымскай кінастудыі Cinecittà. План распрацаваў Франчэска Артэзэ. Фігуры былі зробленыя адным з самых вядомых неапалітанскіх майстроў Антоніа Кантонэ.

"Такім чынам, гэта сапраўдны твор мастацтва. Упершыню на заднім плане будуць фрэскі і жывапіс. І ў той жа час у батлейцы спалучаюцца розныя італьянскія традыцыі: Неапаль, Базіліката, Рым, Венецыя, фактычна ўся Італія, і ўсё гэта ў духу таго, што адбывалася 800 гадоў таму", – падзяліўся Энрыка Берсан.

*Кс. Аляксандр Амяльчэня,*
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*





# Ватыкан: больш за 120 калядных сцэн з усяго свету на выставе

**Сёлета ў Ватыкане зноў адбываецца выстава з больш чым 120 батлеек з усяго свету. Яна адкрылася днём 8 снежня ў каланадзе плошчы святога Пятра. Лейтматыў – святкаванне 800-годдзя першых калядных ясляў у італьянскім Грэча.**

Традыцыя гаворыць, што ў мясцовай пячоры святы Францішак Асізскі ва ўспамін нараджэння Езуса ў Бэтлееме падрыхтаваў першую жывую батлейку і такім чынам распачаў 800-гадовую традыцыю. Менавіта на ўзор гэтай першай каляднай батлейкі сёлета пабудаваны вялікія святочныя яслі на плошчы святога Пятра.

На выставе ў каланадзе вакол ватыканскай плошчы прадстаўлена больш за 120 калядных сцэн з 22 краін свету, у тым ліку з Украіны і Расіі. Іх выраблялі з розных матэрыялаў, уключаючы тканіну і дрэва. Сярод іх, напрыклад, калядныя батлейкі ў форме каваркі і турынскага сабора, дзве кампазіцыі, зробленыя зняволенымі. Як і ў мінулыя гады, на выставе ёсць яслі Божага Нараджэння, створаныя вучнямі школ рэгіёну Лацыа.

Міжнародная выстава "100 батлеек у Ватыкане" будзе працаваць да 7 студзеня 2024 года. Наведаць яе можна бясплатна.

*Кс. Аляксандр Амяльчэня,*
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# У беларускім войску з'явіліся інструктары па рабоце з вернікамі. Гэта ўжо капеланы ці яшчэ не?




**У Беларусі зноў загаварылі пра прызыў святароў на вайсковую службу. Але ўжо не проста ў якасці шараговых, а як інструктараў па рабоце з вайскоўцамі-вернікамі. Паспрабуем разабрацца ў асаблівасцях гэтай новай пасады.**

Як паведамілі ў Міністэрстве абароны, з 1 лістапада ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь уведзеная новая пасада – інструктар па рабоце з вайскоўцамі-вернікамі. У ведамстве адзначылі, што на гэтыя пасады прызначаюцца святары, якія маюць духоўную адукацыю, высвечаныя ў сан і прыдатныя па стане здароўя для праходжання тэрміновай ваеннай службы або службы ў рэзерве.

"Асноўнай задачай дадзеных вайскоўцаў з'яўляецца ўдзел у духоўна-маральным выхаванні, а таксама ў задавальненні духоўна-рэлігійных патрэбаў асабовага складу", – гаворыцца ў паведамленні.

У Мінабароны дадалі, што асноўнай мэтай увядзення новай пасады з'яўляецца "максімальна эфектыўнае выкарыстанне патэнцыялу святароў у інтарэсах фарміравання воінскіх якасцей ваеннаслужачых, іх поглядаў і настрояў, маральнага аблічча". Там таксама паведамілі, што станам на 17 лістапада на пасаду інструктара па рабоце з асабовым складам вернікаў ужо было прызначана шасцёра вайскоўцаў.

Іншыя падрабязнасці новаўведзенай пасады не паведамляліся. У прыватнасці, невядома, якімі канкрэтна нарматыўна-прававымі дакументамі рэгулюецца прызыў святароў і прызначэнне іх інструктарамі. Таксама не ўдакладняецца, прадстаўнікі якіх канфесіяў могуць займаць гэтую пасаду. Пакуль жа вядома толькі пра праваслаўных інструктараў.

Гэтак, "Брестский вестник" паведаміў, што ў 38-й Брэсцкай дэсантна-штурмавой брыгадзе на новую пасаду пераведзены прызыўнік гэтага года айцец Арцемій. Прозвішча святара не называецца, але мяркуючы па апісанні (24 гады, родам з Лунінецкага раёна, скончыў духоўную семінарыю ў Жыровічах, ажаніўся і два гады служыў святаром у адным з праваслаўных храмаў Пінска) і па фота, гэта Арцемій Мігалевіч, рукапаложаны ў іерэя ў кастрычніку 2021 года.

Як паведамляецца, "святар-дэсантнік у 38-й брыгадзе спазнае азы вайсковай службы нароўні з усімі, а саслужыўцы да часу нават не падазравалі, што ён мае свяшчэнны сан". То бок, можна меркаваць, што айца Арцемія спачатку проста прызвалі ў войска, а ўжо пасля прызначылі на новую пасаду. Пры гэтым святар праходзіць службу таксама, як і іншыя прызыўнікі. Пра асаблівасці менавіта святарскага служэння не паведамляецца.

Таксама распавядалася пры прызыў праваслаўных святароў з іншых рэгіёнаў Беларусі, напрыклад, з Гомельшчыны і Магілёўшчыны, як іерэя Аляксандра Ткачэнкі з Гомеля. Але на гэты раз невядомыя іх месцы службы і ці былі яны прызначаныя на пасаду інструктара.

Варта адзначыць, што 3 лістапада Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі, наведваючы Палату Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь, сярод іншага ўзняў пытанне пра канчатковае замацаванне ў заканадаўстве вызвалення святароў ад ваеннай службы, а семінарыстаў – ад прызыву ў войска. Як паведамляў Catholic.by, гэтае пытанне выклікала "ажыўленую дыскусію ўдзельнікаў круглага стала".

### Не першы раз

Гэта ўжо не першы выпадак прызыву ў Беларусі святароў на вайсковую службу. Напрыклад, сёлета ў траўні планавалі прызваць каталіцкага святара – 26-гадовага вікарыя парафіі святога Міхала Арханёла ў Навагрудку Дзмітрыя Мальца. За месяц да 27-годдзя яго збіраліся адправіць у транспартныя войскі, але пасля рашэнне было адменена. Прызывалі ў транспартныя войскі і праваслаўных святароў, у выніку чаго Патрыяршы экзарх усяе Беларусі Мітрапаліт Веніямін нават распарадзіўся знайсці замену для тых, хто падлягае прызыву.

Атрымлівалі святары позвы з ваенкаматаў і ў 2018 годзе, але і тады гэтае пытанне ў выніку атрымалася развязаць.

Агулам на заканадаўчым узроўні ў Беларусі магчымасць для святароў не служыць у войску не прадугледжана. Закон "Аб вайсковым абавязку і вайсковай службе" наўпрост абвяшчае, што "вайсковую службу выконваюць грамадзяне мужчынскага полу... незалежна ад... стаўлення да рэлігіі, роду і характару дзеянняў".

### Як з гэтым у суседзяў?

Аднак у свеце святары даволі часта маюць афіцыйную адтэрміноўку ад службы. Напрыклад, у 2012 годзе ў Расіі былі зацверджаныя правілы адтэрміноўкі ад прызыву на вайсковую службу для асобаў з духоўным санам ці званнем. Таксама расійскія святары атрымалі ад Міністэрства абароны РФ адтэрміноўку ад службы ў войску на ўвесь час знаходжання ў святарскім стане і падчас мабілізацыі 2022 года. Кіраўнік Рускай праваслаўнай царквы патрыярх Кірыл нават заклікаў замацаваць гэтую адтэрміноўку на заканадаўчым узроўні, бо "каноны Царквы строга забараняюць святарам паступаць на ваенную службу".

Таксама і ва Украіне святары атрымалі права на адтэрміноўку ад прызыву на тэрміновую ваенную службу і вызваленне ад ваенных збораў. Праўда, аналагічнай нормы для іх падчас мабілізацыі няма. Таму гіпатэтычна падчас яе ва Украіне забраць у войска могуць і святара. Раней гэтае пытанне часткова вырашалася тлумачэннямі Генеральнага штаба Узброеных Сілаў. Калі ж Святыя Пісанні рэлігійных арганізацыяў забараняюць святарам браць у рукі зброю і прымаць непасрэдны ўдзел у ваенных дзеяннях, яны могуць скарыстацца правам на альтэрнатыўную службу.

У Казахстане закон "Аб вайсковым абавязку і вайсковай службе" таксама ўстанавіў адтэрміноўку ад прызыву на вайсковую службу грамадзянаў, якія маюць духоўны сан або штатную пасаду ў зарэгістраваных рэлігійных аб'яднаннях на перыяд рэлігійнай дзейнасці ці атрымліваюць вочную адукацыю ў духоўных арганізацыях адукацыі.

Вызваляюць асобаў, "якія маюць духоўны сан у адной з зарэгістраваных рэлігійных арганізацыяў, і ва Узбекістане. А вось у Грузіі сёлета, наадварот, скасавалі такую магчымасць, бо яе актыўна надавала маладзёнам, якія не хочуць служыць у войску, адна грамадская арганізацыя, што называлася царквой.

У Літве закон вызваляе ад вайсковага абавязку святароў традыцыйных рэлігійных абшчынаў. Аднак у 2017 годзе Міністэрства абароны краіны падрыхтавала папраўкі, якія б дазвалялі прызыў святароў падчас усеагульнай мабілізацыі – на пасады вайсковых капеланаў.

Ёсць адмысловыя вайсковыя капеланы, якія ў войску кантралююць маральны стан салдат, адпяваюць памерлых, садзейнічаюць эвакуацыі параненых і памерлых вайскоўцаў, таксама ва Украіне і Расіі. Ва Украіне такія святары атрымліваюць афіцэрскія званні і грашовае забеспячэнне, а вось у Расіі яны аформленыя ў вайсковых частках як грамадзянскія спецыялісты або, паводле дэпутата Дзяржаўнай думы Вольгі Цімафеевай, "нідзе не лічацца і знаходзяцца там фактычна як валанцёры-добраахвотнікі".

Цяпер у РФ вырашаецца пытанне ўрэгулявання прававога статусу прадстаўнікоў духавенства, якія адпраўляюцца на фронт. На вайсковае духавенства хочуць распаўсюдзіць ільготы, гарантыі і кампенсацыі, устаноўленыя заканадаўствам Расіі для вайскоўцаў і чальцоў іх сем'яў. Пры гэтым святарам плануецца забараніць выдачу боепрыпасаў і зброі.

У Беларусі ж прававыя падставы службы інструктараў па рабоце з вернікамі ў войску пакуль не зразумелыя. Але, мяркуючы па наяўнай інфармацыі, зброю ім усё ж выдаюць.

Тым часам канон 289 Кодэксу кананічнага права Каталіцкага Касцёла зазначае, што "вайсковая служба не адпавядае духоўнаму стану". Таму, паводле яго, "духоўныя асобы і кандыдаты да пасвячэння не павінны ісці на яе добраахвотна", а наадварот, яны "павінны карыстацца вызваленнем ад выканання заданняў і займання публічных свецкіх пасадаў, неўласцівых духоўнаму стану".

*Мечыслаў Гапановіч*

# Святы Пасад: маці-адзіночкі могуць спавядацца і прымаць Камунію

**Маці-адзіночак, якія, часта знаходзячыся ў складаных абставінах, "зрабілі выбар на карысць жыцця і з гэтай прычыны апынуліся ў вельмі складанай сітуацыі, варта заахвочваць да доступу да збаўчай і суцяшальнай сілы сакрамэнтаў".**

Аб гэтым гаворыцца ў зацверджаным Папам лісце прэфекта Дыкастэрыі веравучэння, кардынала Віктара Мануэля Фернандэса, у якім гучаць адказы на пытанні, якія паступілі ў Святы Пасад з Дамініканскай Рэспублікі. Яны тычацца праблем, якія існуюць у Лацінскай Амерыцы.

Тэкст быў адрасаваны біскупу Рамону Альфрэда дэ ла Круз Балдэры. Выказаныя ім сумненні тычацца рэакцыі некаторых маладых жанчын перад прынясцем сакрамантаў, якія баяцца "строгасці духавенства і адказных асоб у супольнасцях". У адказе адзначаецца, што, сапраўды, "у некаторых краінах як святары, так і некаторыя свецкія вернікі не дазваляюць маці, якія маюць дзяцей па-за шлюбам", нават хрысціць іх.

У дакуменце нагадваецца, што жанчыны ў такой сітуацыі маюць поўнае права ўдзельнічаць у сакрамантальным жыцці Касцёла, а значыць, таксама спавядацца і прымаць Камунію. Больш за тое, пра іх трэба клапаціцца, каб яны і іх дзеці мелі здаровае асяроддзе і каб ім не даводзілася шукаць сродкі для выжывання спосабамі, якія прыніжаюць іх годнасць. Тым больш што маці-адзіночкі выразна і гераічна выбралі жыццё і змагаюцца за яго часцей за ўсё кожны дзень.

*Кс. Аляксандр Амяльчэня,*
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*



# Цуд на Каляды

## Непрыдуманая гісторыя пра цяжарнасць і анкалогію

**Калядныя святы – самыя прыгожыя і светлыя: яны дораць адчуванне гармоніі, цяпла і раўнавагі, напаўняюць сэрца сапраўднай любоўю да Бога і людзей, набліжаюць кожнага да цуду. З узростам падаецца, што ў гэтым свеце няма месца для цудаў, для жывой прысутнасці Бога. Бог далёка, Ён не чуе нашых малітваў, не бачыць слёз – на жаль, так лічаць многія, расчараваўшыся ў свеце, у людзях і шукаючы паратунку ў іншых рэчах. Аднак Бог спрыяе і сёння, знаходзіцца заўсёды побач і дапамагае знайсці выйсце нават з самай крытычнай сітуацыі.**

У 2017 годзе са мной здарыўся самы сапраўдны каляды цуд. У пачатку года я не думала, што такая гісторыя можа са мною адбыцца, а ў жыцці ўсё ішло роўна і гладка. Аднак пра ўсё па парадку…

### Дзявочыя мары

Пра што марыць кожная дзяўчына? Адказ ляжыць на паверхні – стварыць трывалую сям'ю, нарадзіць і выхаваць дзетак. Такія мары ў той час былі і ў мяне. У пачатку 2017 года яны пачалі пакрысе рэалізоўвацца: у мяне быў нарачоны, з якім мы мелі намер праз некалькі месяцаў пабрацца шлюбам. Маё тагачаснае жыццё было напоўнена прыемнымі передвясельнымі клопатамі: я выбірала сабе сукенку, думала над арганізацыяй свята, вырашала шматлікія пытанні. А па вечарах мы хадзілі ў касцёл на перадшлюбную падрыхтоўку. Я ўяўляла, што хутка маё жыццё зменіцца, у ім з'явіцца новы чалавек, з каторым мы пойдзем далей. Такія думкі натхнялі, давалі стымул, матывавалі. І я дачакалася гэтай падзеі.

Нягледзячы на тое, што наш дзень быў азмрочаны дрэнным надвор'ем, я адчувала сапраўдную радасць і задавальненне: побач былі самыя родныя і блізкія людзі. Яшчэ адна акалічнасць азмрочыла мой дзень: пасля шлюбу я страціла заручальны пярсцёнак. Аднак праз гадзіну ўпартых пошукаў мая страта знайшлася.

Восенню я даведалася, што чакаю дзіця. Гэтая падзея была сапраўдным святам для мяне. Я круціла ў руках запаветны тэст з двума рыскамі і думала пра тое, як паведамлю цудоўную навіну свайму мужу. Цяжарнасць праходзіла дастаткова складана: быў моцны таксікоз, з якім я не магла нічога зрабіць. Ніякія сродкі не дапамагалі. Але гэта не перашкаджала мне цешыцца з цяжарнасці і новага жыцця, якое расло ўва мне. Я і зараз успамінаю той час. Цяжарнасць робіць кожную жанчыну больш лагоднай, грацыёзнай і прыгожай, дорыць сапраўдную жаноцкасць. Мне вельмі хацелася патрапіць на першае ўльтрагукавое даследаванне, паглядзець на сваё дзіця на вялікім маніторы. І я дачакалася. Урач пільна глядзела на манітор, дыктавала нейкія незразумелыя дадзеныя, а пасля падагульніла, што дзіця развіваецца добра, адхіленняў няма.

### Новаўтварэнне

Аднак праз некаторы час лекарка заўважыла ў мяне невялікае новаўтварэнне. Яна супакоіла, што аперацыя пакуль не патрабуецца. Неабходны толькі пастаянны кантроль. Апошнія словы занепакоілі мяне. Узнікла безліч пытанняў. Ці не пашкодзіць новаўтварэнне цяжарнасці? Ці змагу я вынасіць дзіця? Яны з вялікай хуткасцю раіліся ў маёй галаве і крыху прыгняталі. Наступны ўльтрагук паказаў, што новаўтварэнне павялічылася больш чым у два разы.

Жах і роспач… Роспач і жах… Гэтыя рэчы я адчувала пасля чарговага абследавання. Было страшна страціць дзіця, якое я вельмі чакала. Падавалася, што ўсё гэта страшны сон, які вось-вось скончыцца. Але сон не канчаўся, новаўтварэнне расло, і я хутка была шпіталізаваная. На твары свайго ўрача я бачыла няпэўнасць, разгубленасць. Ён прыходзіў і шчыра жартаваў з іншымі пацыенткамі, абнадзейваў іх, называў канкрэтныя даты выпіскі. Я ж не мела ніякай інфармацыі. Праз дзень урач прынёс накіраванне на аналіз крыві, каб выключыць анкалогію. Само слова "анкалогія" спужала і занепакоіла. Якая анкалогія? Мне толькі дваццаць пяць. Я маладая і здаровая жанчына. Ноч перад аналізам падавалася бясконца доўгай. Я не змагла заснуць, пазірала ў акно на снежанскі пейзаж, спакойны і гарманічны. Спакой і гармонія. Гэтых рэчаў мне вельмі не хапала ў тую ноч…

Раніцай я ішла па заснежаным горадзе, углядалася ў вокны шматпавярховікаў, глядзела на цыбатыя ліхтары, якія цягнуліся ўвысь, да неба і аблокаў. Праходзячы ля касцёла, вырашыла зайсці. У цьмяным святле можна было разгледзець яшчэ некалькі постацей людзей, якія прыйшлі ў храм. Я не магла маліцца. Спрабавала пачынаць, збівалася, зноў пачынала. Пасля замаўчала. Пачалася бясслоўная малітва, малітва сэрца. Гаючымі слязьмі яна лілася па маім твары, ачышчаючы душу, пазбаўляючы ад болю і страху. Мне стала больш спакойна, я адчула падтрымку кагосьці моцнага, хто бязмежна мяне любіць. Адвэнтовы вянок нагадваў пра тое, што зараз – час чакання і надзеі. Я з надзеяй пазірала на алтар, на абразы святых і Маці Божай. Знаходзячыся ў бласлаўлёным стане, Яна не наракала, не абвінавачвала, не дазваляла страху завалодаць Яе сэрцам, але поўнасцю даверылася Богу. Павінна даверыцца і я.


Фота носіць ілюстратыўны характар

### Страх і надзея

У медыцынскім цэнтры я хутка дачакалася сваёй чаргі, здала аналіз. Калі вярнулася, мне было надзвычай цяжка знаходзіцца з суседкамі. Размовы пра падгузнікі, дзіцячыя цацкі і хваробы наганялі яшчэ больш роспачы. Я нервова правярала электронную пошту, чакаючы выніку аналізу. А яго ўсё не было. Бальнічны калідор падаваўся бясконца доўгім. Некалькі разоў змерала яго крокамі. Пост медыцынскіх сясцёр упрыгожвалі елачкі, цацкі і іншыя навагоднія дэкарацыі. Але адчування свята зусім не было. Толькі апатыя і страх перад невядомасцю.

"Не бойцеся!" – у Евангеллі гэтае слова Езус ужывае вельмі часта, звяртаючыся да апосталаў і простых людзей. Аднак я баялася. Вельмі баялася. Мая чалавечая натура ніяк не магла супакоіцца, аддаць праблему ў Божыя рукі. І вось нарэшце на пошце з'явіўся чаканы вынік. Сэрца пачало біцца з вялікай хуткасцю, падавалася, вось-вось яно выскачыць з грудзей. А я ніяк не магла наважыцца адкрыць дакумент. Згортвала пошту, думала пра магчымыя варыянты і зноў разгортвала. У рэшце рэшт, сабрала волю ў кулак і адкрыла дакумент. Я не магла паверыць сваім вачам, яшчэ і яшчэ раз перачытвала дадзеныя, праглядала лічбы. А пасля не вытрымала і расплакалася на ўвесь калідор. Аналіз быў станоўчым…

Няўжо ў мяне і сапраўды анкалогія? Урач раздрукаваў дакумент і схаваўся з ім у ардынатарскай. Ён усімі сіламі імкнуўся падтрымаць, знайсці "правільныя" словы, аднак атрымлівалася гэта ў яго няскладна. "Трэба чакаць!" – адзіная рэч, якую ён мне паўтараў. Суседкі па палаце бачылі маю разгубленасць і прыгнечанасць, імкнуліся падтрымаць рознымі гісторыямі са свайго жыцця. Іх вясёлае шчабятанне было толькі фонам для маіх сумных думак. Я ляжала на ложку, пазірала ў акно і чакала нейкага выйсця, правільнага рашэння.

Урэшце вырашылі правесці кансіліум. Гэта падзея адначасова і расхвалявала, і абрадавала. Магчыма, штосьці вырашыцца, мне зробяць аперацыю, з'явіцца перспектывы. Я нясмела зайшла ў ардынатарскую, у якой сядзела некалькі ўрачоў рознага ўзросту. Мой доктар зачытаў вытрымкі з гісторыі хваробы, а мне падавалася, што я знаходжуся на судзе. Вось-вось вынесуць нейкі прысуд. Калі доктар скончыў чытаць, адна з жанчын пачала гаварыць: "Становчы вынік не гарантуе анкалогіі. Мы пакуль нічога не ведаем. Аднак новаўтварэнне расце агрэсіўна і хутка, а наш перынатальны цэнтр не валодае дастатковым вопытам у лячэнні такіх захворванняў. Вам неабходна звярнуцца ў анкалагічны цэнтр. Магчыма, там вам дапамогуць".

Разгубленая і прыгнечаная, я не памятаю, як выйшла з кабінета. Я чакала зусім іншых слоў, канкрэтнай даты аперацыі. У маёй руцэ была рэкамендацыя звярнуцца ў анкалагічны цэнтр. "Не гарантуе", "магчыма, дапамогуць" – асобныя словы круціліся ў галаве, іх было складана прыняць і ўсвядоміць. А што будзе з дзіцяткам? Новаўтварэнне павялічваецца з кожным днём. Я трачу час. Такі каштоўны і патрэбны. Мне хацелася расплакацца, але я не дазваляла сабе плакаць. Не было сілы нават гаварыць. Увесь час тэлефанавалі родныя, мой тэлефон разрываўся. Я ж не магла сабрацца з сіламі, бо сілаў не было на размову. Да мяне ў палату зайшла жанчына, якая таксама прысутнічала на кансіліуме. Яна ўціснула мне ў руку лісток з нумарам свайго мабільнага, пажадала ўдачы і заклікала тэлефанаваць, калі штосьці не атрымаецца. Калі выйшла на вуліцу, у мяне закруцілася галава ад свежага паветра, якое п'яніла, нагадвала, што побач ёсць жыццё і яно віруе.

### Абследванні

Вось я ўжо ў сталіцы. За акном аўто пралятае лёгкі сняжок, горад па-святочнаму ўпрыгожаны. Людзі, закруціўшыся ў шалікі, крочаць па сваіх справах. Як заўсёды, мяне захапілі сумныя думкі, страх перад невядомасцю. Я нервова гартаю вынікі дыягностыкі, чытаю і перачытваю дыягназы, ля якіх стаяць пытальнікі. У анкалагічным цэнтры шматлюдна. Пад кожным кабінетам – чарга. Побач – мама, яна маўчыць, толькі нервова пазірае на мяне, час ад часу прапаноўвае вады. Жанчыны ў каляровых хустачках размаўляюць пра нешта. Абедзве яшчэ зусім маладыя. Адзіная адметнасць – у іх няма броваў і вейкаў, а скура бледна-шэрага колеру. А ля акна – жанчына ў інвалідным вазку. Яна цяжка дыхае, увесь час уздыхае і штосьці даводзіць сваім родным. Вось адчыніліся металічныя дзверы і медыцынская сястра выклікала чарговага пацыента. Я нервова пазіраю на людзей. Разумею, што ў свеце шмат болю і цярпення. Раней я пра гэта моцна не задумвалася. Калі ў чалавека ўсё складваецца добра ў жыцці, ён не задумваецца пра іншых, пра тое, што побач шмат людзей, якія церпяць і пакутуюць. У гэты час мае праблемы падаліся не такімі складанымі і страшнымі, а страх трансфармаваўся ў шчырае спачуванне да кожнага, хто знаходзіцца ў гэтым доўгім калідоры.

У чарговы раз расчыніліся дзверы, на гэты раз выклікалі мяне. За сталом сядзе- ⇒



⇐ ла пажылая жанчына з патухлымі вачыма. Яна задуменна ўзяла маю гісторыю хваробы, а мне прапанавала прайсці за шырму.

– Апранайцеся. Трэба будзе яшчэ раз здаць кроў, – падсумавала яна.

– Доктар, што ў мяне? Гэта сур'ёзна? – нервова запытала я.

– Выдалім – пабачым. Цягнуць нельга. Усё выдаліць трэба да дваццатага тыдня. Чуеце? Інакш, самі разумееце…

Але я не разумела. Нічога не разумела. Ці проста не хацела разумець і верыць, што ўсё гэта рэальнасць. А што будзе з маёй дачкой? Дарэчы, я яшчэ не ведала пол свайго дзіцяці, але была цалкам упэўненая: я нашу дзяўчынку, дачушку, якой заўсёды марыла заплятаць тугія коскі, купляць стракатыя сукенкі. Аднак ці варта зараз марыць і думаць пра гэта? Я зноў здала кроў, пасля чаго прыехаў дзядзька і мы паехалі да яго. Усю дарогу ён жартаваў, расказваў анекдоты і шчыра ўсміхаўся. Вечарам я пазірала ў акно, якое выходзіла акурат на спартыўны комплекс з мільёнам лямпачак, і вельмі чакала раніцы. Як усё нетрывала ў гэтым жыцці!.. У пачатку года ў мяне былі зусім іншыя клопаты, я рыхтавалася да вяселля, была закаханая. І нават падумаць не магла, што канец года будзе азмрочаны сур'ёзнай хваробай. У любы момант усё можа знікнуць. Грошы, слава, дабрабыт, адукацыя – усё гэта часовыя ілюзорныя каштоўнасці. У адну хвіліну можа абарвацца чалавечае жыццё, а разам – і надзеі, і ўяўнае шчасце. Memento mori – памятай пра смерць. Лацінскі крылаты выраз раптоўна прыйшоў у галаву, прымусіўшы задумацца над тым, што ў жыцці з'яўляецца галоўным, а што – другарадным.

Вынікі аналізу былі гатовыя. Яны цалкам паўтаралі папярэднія. Цяпер рэакцыя на гэта была больш спакойнай, бо чалавек прызвычайваецца да ўсяго ў жыцці. Да праблем і цяжкасцей таксама. Я зноў сяджу пад тым самым кабінетам, чакаючы сваёй чаргі, зноў хвалююся і непакоюся.

Лекарка зазірнула ў лісток з аналізам. І нарэшце падсумавала: "Вы цяжарная. Мы вам не зможам размяліць наркоз". – "А што мне рабіць? У мяне ўжо шаснаццаты тыдзень". – "Такія пытанні вырашае загадчыца аддзялення. Схадзіце да яе".

### Аперацыя

Бог дапамагае рукамі людзей. Цяпер я ў гэтым упэўненая. Загадчыца аказалася вельмі прыязнай і мілай жанчынай. Праз некалькі хвілін я выходзіла з накіраваннем у навукова-практычны цэнтр. Ніколі ў жыцці я так не чакала шпіталізацыі і аперацыі. Усё хацелася вырашыць як мага хутчэй.

Многія лічаць, што ненароджанае дзіця – гэта яшчэ не чалавек, або непаўнавартасны чалавек, таму з лёгкасцю ідуць на аборт, абрываючы кволае жыццё. Аднак цяжарнасць – гэта асаблівы стан. Нездарма яго называюць благаслаўлёным. Зацяжарыўшы, я адчула сябе сапраўднай жанчынай, адразу з'явілася трывалая сувязь з дзіцяткам. Кожны вечар, кладучыся спаць, я жагнала свой жывоцік, жадала сваёй малечы добрых сноў. Зусім па-іншаму стала адчуваць гэты свет, глядзець на сваю штодзённасць. У мяне з'явілася адказнасць не толькі за сваё жыццё, але і за жыццё яшчэ аднаго чалавека. Я прымушала сябе есці, калі нават зусім не хацела, "выцягвала" сябе на шпацыр, слухала класічную музыку і малілася ўслых, каб дзіцятка ад пачатку было далучанае да цудоўнага і галоўнага ў гэтым жыцці. Менавіта таму мяне агортвала роспач, калі ўрач казаў, што не ведае, ці захаваецца цяжарнасць. Зараз галоўнае не гэта, а маё жыццё. Гэтыя словы ўразаліся ў свядомасць і моцна ранілі сэрца.

На наступны дзень мяне шпіталізавалі. Маімі суседкамі аказаліся прыемныя дзяўчаты, якія лячыліся ад бясплоддзя. У кожнай была свая гісторыя, гады чакання і няўдалыя спробы зацяжарыць. Аднак яны не здаваліся, працягвалі шукаць адпаведнага лячэння. Яны шчыра прызнаваліся, што падобраму зайздросцяць маяму стану, пыталіся, што я зараз адчуваю. Мы жартавалі і смяяліся. На нейкі момант я нават забылася, што заўтра мяне чакае аперацыя.

Ноччу, калі мае суседкі спалі, я сядзела на сваім ложку. Было ўжо глыбока за поўнач. Да самага прыгожага каталіцкага свята заставаліся ўсяго тры дні. Хутка Езус прыйдзе на гэты свет, запаліць у кожным сэрцы радасць і надзею. А пакуль Марыя чакае. Цікава, што Яна адчувала ў апошнія дні сваёй цяжарнасці? Як рыхтавалася да гэтага дня? Ці было Ёй страшна? Напэўна, Яна перажывала гэты момант са светлай радасцю і надзеяй. Яна, як ніхто іншы, умела давяраць Богу, спадзявацца на Яго нават у самай крытычнай і безнадзейнай сітуацыі. Такому дзіцячаму даверу павінна навучыцца і я. У мяне абавязкова ўсё павінна быць добра. Марыя, добрая Маці, не пакіне мяне адну, не дапусціць, каб штосьці здарылася са мной ці з дзіцяткам, бо Яна сама Маці. А ў гэты прыгожы перыяд, напоўнены асаблівай любоўю, усё абавязкова будзе добра. На гэтым мае думкі абарваліся і я спакойна заснула.

З самай раніцы мне прынеслі вопратку для аперацыі. Я апранулася ў шырокую кашулю, зняла з сябе ўпрыгожанні, а перад выхадам адгаварыла малітву "Тваёй абароне". Пасля чаго вырушыла ў аперацыйны пакой. Там мяне ўжо чакалі.

Персанал мітусіўся, рыхтуючы ўсё неабходнае. Я стаяла ў кутку, разглядала аперацыйны стол, які нагадваў мне заркалёт. Вось я ўжо на стале. Медыцынская сястра прывязвае рукі да стала.

– Навошта гэта? – з цікавасцю пытаюся я.

– Такія правілы. Нічога не бойцеся і расслабцеся, – зазначае жанчына і яе вочы шчыра ўсміхаюцца.

Прыйшоў урач-анестэзіёлаг, даў адпаведныя даручэнні. Праз хвіліну паставілі крапельніцу.

– Палічыце, калі ласка, да дзесяці, – сказаў хтосьці з урачоў.

Лямпа над галавою паволі пачала плысці, а святло стала мяккім і незямным. Здавалася, што мяне зацягвае нейкая іншая рэальнасць, у якой няма турбот і праблем.

### Прачынайцеся!

– Прачынайцеся!!! Чуеце? – нехта стаяў над маім тварам і моцна тузаў за плячо. Вочы зусім не хацелі расплюшчвацца, галава балела, а мне зноў хацелася праваліцца ў сон. Пакрысе я стала разглядаць пакой, у якім знаходжуся. Праз шкло бачыла медыцынскую сястру, а побач на ложку – яшчэ адну жанчыну. Да мяне было падключана безліч розных апаратаў і правадоў. Тады я зразумела, што знаходжуся ў палаце інтэнсіўнай тэрапіі. Апамятаўшыся, я адразу пачала намацваць свой жывот. Ён быў на месцы. Гэта значыць, што цяжарнасць захаваная. Унізе ён быў цалкам заклеены пластырам, аднак моцнага болю я не адчувала. Праз некаторы час зайшоў доктар і паведаміў, што аперацыя прайшла паспяхова, а новаўтварэнне адправілі на цыталагічны аналіз, вынікаў якога трэба чакаць тыдзень. Толькі тады будзе вызначаны план далейшых дзеянняў.

Я радавалася. Па-дзіцячы наіўна і шчыра. Больш не было пагрозы цяжарнасці. І я магла выдыхнуць, хоць і на кароткі час. Праз гадзіну анестэзія пачала адпускаць і я адчула моцны боль. Рухі даваліся цяжка, кожны паварот прыносіў дыскамфорт. Сабраўшыся з сіламі, я вырашыла ўстаць. Аднак у мяне моцна закруцілася галава, пад рукі падтрымалі санітаркі, зазначыўшы, што ўставаць мне пакуль рана.

Вечарам прыйшла іншая санітарка, каб памыць падлогу. Гэта грузная жанчына з нізкім голасам аказала незвычайнае ўражанне і на мяне, і на маю суседку.

– Вось вы так мучаецеся, дзяўчаты, у болях іх нараджаеце, а яны вам потым падзякуюць, не пусцяць вас нават на парог, – зазначыла санітарка.

У сваім жыцці яна зрабіла некалькі абортаў, але адну цяжарнасць усё ж вырашыла захаваць. Аднак адносіны з сынам так і не склаліся. Мы з суседкай зусім не падзялялі яе скептычных думак наконт нараджэння дзяцей. А ў душы мне стала надзвычай шкада гэтую адзінокую жанчыну, бо за маскай цынізму ўсё ж хавалася зраненая чалавечая натура.

На куццю мяне перавялі ў звычайную палату. Прыехалі мае родныя, каб падзяліцца апплаткам, любоўю і шчырасцю. Я абдымала маму, якая ўвесь гэты час была побач, падтрымлівала мяне і не давала ўпасці духам. І раптам адчула сябе невымерна шчаслівай: у мяне ёсць родныя людзі, якія любяць мяне, атуляюць клопатам і ўвагай! Ці не гэта самае галоўнае ў жыцці? І не так важна, якім будзе вынік аналізу. Бог не пакіне мяне, Ён дасць мне сваіх анёлаў, што дапамогуць перажыць і гэта.

Ноч з 24 на 25 снежня была для мяне нязвыклай. Заўсёды я праводзіла яе дома, у сямейным коле. Апоўначы мы разам ішлі на Пастэрку, а пасля спявалі калядкі, радуючыся нараджэнню Хрыста. Сёння мяне чакала зусім іншая ноч. Але гэта зусім не адмяняла яе святасці і ўрачыстасці. Бог прыходзіць у гэты свет, атуляючы яго ахвярнай і невычэрпнай любоўю. Ён любіць усіх аднолькава: і тых, хто зламаны духам, і тых, хто хварэе і адчувае адзіноту. Гэтыя думкі збудавалі мае адносіны да калядных святаў. І ўжо цяпер, прыходзячы на Пастэрку, я заўсёды малюся за людзей, якія знаходзяцца ў роспачы, адзіноце, якія хварэюць і не адчуваюць падтрымкі ад родных. Бог даў мне маленькі ўрок любові і спагады. Разумець іншых пачынаеш толькі тады, калі сам праходзіш праз пэўныя негатыўныя рэчы. Маё сэрца было поўнае падзякі за гэты падарунак, які я атрымала напярэдадні вялікага свята. Яшчэ тыдзень таму я знаходзілася ў цемры, але прыйшоў Бог, а разам з Ім – невычэрпнае святло.

Праз некалькі дзён я ў чарговы раз пайшла на ўльтрагук. Урач зазначыла, што аперацыя прайшла добра. А пасля спытала ў мяне, ці ведаю я пол будучага дзіцяці. Я сказала, што не ведаю, але адчуваю – будзе дзяўчынка. Яна ўсміхнулася, павярнула да мяне манітор і пацвердзіла мае прадчуванні. Акрыленая цудоўнай навіной, я вярталася ў палату. Маё сэрца перапаўнялі ўдзячнасць, незвычайны спакой і радасць. Пасля працяглай ночы заўжды прыходзіць дзень. Заставалася толькі дачакацца вынікаў аналізу. Аднак урач мяне абнадзеіла.

– Не перажывайце, ёсць магчымасць захаваць цяжарнасць. Калі новаўтварэнне не акажацца дабраякасным, то народзіце, а потым будзеце лячыцца.

Гэты факт падарыў надзею і сапраўдную веру ў будучыню, у якой ёсць месца маёй маленькай дачушцы. Мяне ўжо не ахопліваў такі жах, я стала больш спакойнай. Чарговай раніцай урач прыйшла на абход з вынікам аналізу.

– У вас усё добра! Хутка выпішам.

У мяне ўсё добра! У нас усё добра! Я не магла паверыць свайму шчасцю, плакала, як дзіця, дзякуючы ўрачу і медыцынскім сёстрам. Праз дзень я ўжо выходзіла з бальніцы. Яшчэ раз абвяла позіркам гэтыя сцены, у якіх было столькі болю, горычы і адначасова радасці, надзеі і любові.

Дачушка нарадзілася ў вызначаны тэрмін. Моцным крыкам яна абвясціла пра свой прыход у гэты свет. Я далікатна трымала яе на руках, разумеючы, што гэта падарунак самога Бога на самыя цудоўныя і прыгожыя святы.

Акрамя дня нараджэння дачкі, я заўсёды ўспамінаю дзень сваёй аперацыі, бо лічу яго другім днём нараджэння сваёй дзяўчынкі. Днём, які збудаваў маю веру і падарыў самы сапраўдны калядны цуд!

***Сведка Божай любові***



Каталіцкі ВЕСНІК
№12 (153)
снежань 2023 г.

# Ксёндз Францішак Будзька і каталіцкія выданні па-беларуску

**Летась перад святам Божага Нараджэння на адным з польскіх інтэрнэт-аўкцыёнаў мне трапілася невялікая кніжка, якую прадаваў чалавек з Кракава. Гэтая кніжка была выдадзеная ў 1914 годзе ў Вільні, надрукаваная па-беларуску лацінкай. Загаловак выдання – “Karotkaje wyjaśnieńnie abradau R-Katalickaho kaścioła”. Наверсе вокладкі ёсць надпіс – “Выданне “Беларуса” №5”.**

На 64 старонках кнігі простымі словамі апісваюцца рэчы, якія датычацца каталіцкай літургіі – унутранае ўладкаванне касцёлаў, літургічнае адзенне, сакраманты, перыяды літургічнага года. “Яўнае набажэнства бярэ свой пачатак ад самога Бога, каторы яшчэ ў раю даў прыказанне Адаму і Еве святкаваць дзень суботні і ня есці плоду з забароненага дрэва (пазнання добрага і злога). Спаўняючы гэтае прыказанне, ужо першыя людзі аказывалі яўную паслушнасць свайму Стварыцелю. Так сама Патрыярхі рабілі Богу ахвяры, як сам Ён навучыў іх, каб паказаць сваю залежнасць ад Бога”, – пішацца на першай старонцы. Аўтар гэтай кнігі – кс. Дыянізій Банчкоўскі, які быў настаўнікам рэлігіі ў Кіеве. Ён напісаў і выдаў сваю кнігу папольску, і яна аказалася папулярнай. Некалькі разоў перавыдавалася па-польску, была перакладзена на літоўскую і беларускую мовы. На тытульным аркушы беларускага перакладу ёсць сціплы надпіс: “З польскага ператтлумачыў Х.”

За сціплым крыптонімам “Х” хаваецца святар, які стаяў ля пачатку беларускага адраджэння ў Касцёле. У адрозненне ад кс. Адама Станкевіча ці кс. Язэпа Германовіча, ён не быў вядомым пры жыцці, хоць закладваў падмуркі, на якіх працягвалі дзейнасць беларускія святары ў міжваенны час.

Гэты “Х” – гэта кс. Францішак Будзька. Ён нарадзіўся 23 студзеня 1884 года ў вёсцы Вознаўшчына ў Параф’янаўскай парафіі. Будзька скончыў школы ў Будславе і Вілейцы і ў 1901 годзе паступіў у семінарыю ў Пецярбурзе. У 1907 годзе прыняў святарскае пасвячэнне.

Пачатак ХХ стагоддзя быў часам для беларускай мовы неспрыяльным. Беларускае адраджэнне яшчэ ледзь-ледзь пачыналася. З 1864 да 1904 гг. у Расійскай імперыі дзейнічала забарона на выданне кніг на беларускай мове. У Касцёле Імша служылася на лацінскай мове, а касцельныя спевы, літаніі і іншыя малітвы, а таксама казанні былі на польскай. А большасць каталікоў, якія ў штодзённым жыцці былі беларускамоўнымі, дрэнна разумелі польскую мову. Людзі, якія ведалі кс. Францішка Будзьку, пісалі, што да разумення каштоўнасці беларускай мовы ён прыйшоў, сутыкнуўшыся з творчасцю Францішка Багушэвіча. Зборнікі ягоных вершаў друкаваліся ў Кракаве і Познані і напаўлегальна перапраўляліся ў Расійскую імперыю. У зборніку “Дудка беларуская” паэт напісаў прадмову з заклікам “Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі”. У канцы ХІХ – пачатку ХХ стст. гэты заклік многім трапіў у сэрца.

Важным для Францішка Будзькі было знаёмства з кс. пралатам Стэфанам Данісевічам. З 1905 да 1908 года гэты святар быў адміністратарам Магілёўскай архідыяцэзіі. Гэтая архідыяцэзія мела свой цэнтр у Пецярбурзе і ахоплівала большую частку Расійскай імперыі, была самай вялікай дыяцэзіяй у свеце. Кс. Данісевіч паходзіў з Чарэі, што каля Сянна, і добра разумеў патрэбы беларускіх вернікаў. У 1906 годзе кс. Данісевіч перавыдаў “Элементаж для добрых дзетак Католікаў”, які першы раз выйшаў у 1862 годзе ў Варшаве.

У 1906 годзе Францішак Будзька пераклаў з польскай на беларускую мову тры невялікія кнігі, прызначаныя для рэлігійнай асветы: “Кароткі катахізм для прыспасаблення дзяцей да першай


Кс. Францішак Будзька

Споведзі і Камуніі Святой” кс. Роха Філяхоўскага, “Кароткую гісторыю святую” кс. Шустара і “Кароткае выясненне абрадаў Р.-Каталіцкага касцёла” кс. Банчкоўскага.

Дазвол касцельнай улады, неабходны для выдання трох гэтых кніг, падпісаў у 1907 годзе якраз кс. пралат Данісевіч. Праўда, тады кс. Будзька знайшоў грошы на выданне толькі адной з іх – “Кароткага катахізма”, які быў надрукаваны накладам 10.000 асобнікаў і хутка разышоўся сярод вернікаў. 9 студзеня 1908 года ксёндз Францішак Будзька атрымаў накіраванне вікарыем у Полацк. Ён выязджаў на фэсты ў вясковыя і мястэчковыя парафіі, дзе часам гаварыў казанні па-беларуску. Найчасцей ён прамаўляў па-беларуску ў Уле, дзе папярэдні пробашч Уладзіслаў Межвіньскі – рэдкі для тых часоў выпадак – карыстаўся ў касцёле беларускай мовай. У 1911 годзе кс. Будзька выдаў пабеларуску кнігу пра св. Андрэя Баболю, чые рэліквіі ў той час былі ў Полацку.

У 1912 годзе кс. Будзька быў накіраваны служыць у Пецярбург. У гэты ж час ён заняўся неабходнымі фармальнасцямі, каб пачаць выданне першай каталіцкай газеты па-беларуску. “Ад пачатку 1913 году выходзіць у Вільні тыднёвая каталіцкая газета “Biełarus”, нясе яна што тыдзень вясковаму беларусу-каталіку ў яго роднай мове жывое каталіцкае слова парады, пацехі, асветы”, – пісала рэдакцыя ў рэкламнай аб’яве. “Biełarus” даходзіў у многія вёскі і мястэчкі на Паазер’і. На яго старонках можна было сустрэць допісы чытачоў з Браслава, Новага Пагоста, Глыбокага, Мосара, Ваўкалатаў, Параф’янава. Акрамя газеты, рэдакцыя выдавала кнігі на рэлігійную і асветніцкую тэматыку. Сярод тых кніг былі зборнік вершаў Андрэя Зязюлі (кс. Аляксандра Астрамовіча) “З роднага загону”, падручнік па пчалярстве кс. Гэнрыка Бэты ды “Рады маткам для гадавання дзяцей”. У той жа серыі выданняў газеты “Biełarus” выйшлі і ранейшыя пераклады кс. Францішка Будзькі – “Кароткая гісторыя святая” і “Кароткае выясненне абрадаў”. Таксама была надрукаваная і адзіная кніга, якую кс. Будзька напісаў сам: “Некалькі слоў аб пакуце”. У ёй святар тлумачыў, як адбываць сакрамант споведзі. Гэтая выдавецкая дзейнасць не была б магчымай, калі б не было грошай. Але кс. Будзьку ўдалося знайсці фінансавую падтрымку ад князёўны Магдалены Радзівіл.

Газета “Biełarus” і вышэйзгаданыя кнігі выдаваліся лацінскім алфавітам. Выдаўцы лічылі, што лацінскі алфавіт больш зручны для беларусаў-каталікоў. Многія з іх патаемна навучыліся чытаць па-польску, каб разумець польскія малітоўнікі. З гэтай жа прычыны каталікі адчувалі большы давер да літаратуры, выдадзенай лацінскім шрыфтам. Але, шырэй гледзячы, гэта было часткай традыцыі беларускага пісьма і друку лацінкай. Лацінкай выходзілі творы Дуніна-Марцінкевіча, “Мужыцкая праўда” Каліноўскага, вершы Багушэвіча. У міжваенны час традыцыю выдавецтва лацінкай працягвалі газета “Krynica”, якую выдавалі хрысціянскія дэмакраты, блізкія да кс. Адама Станкевіча, а таксама каталіцкі часопіс “Chyścijanskaja Dumka”.

Вернемся, аднак, да асобы кс. Францішка Будзькі. У 1916 годзе святар вярнуўся з Пецярбурга на Полаччыну і купіў фальварак каля станцыі Глушаніна. Там ён планаваў пабудаваць драўляны касцёл у беларускім стылі, праект якога распрацаваў архітэктар Лявон Вітан-Дубейкаўскі. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года кс. Францішак Будзька быў адным з арганізатараў з’езда беларускіх ксяндзоў у Мінску. Таксама ён рупіўся пра адраджэнне Уніі. Магдалена Радзівіл ахвяравала дыяментавыя каралі, каб прадаць іх, а сродкі выкарыстаць на заснаванне навучальнай установы для беларускіх грэка-каталіцкіх святароў. Аднак усе далейшыя планы абарвалі бальшавіцкая рэвалюцыя і заўчасная смерць кс. Францішка Будзькі. Святар памёр ад запалення лёгкіх 2 лютага 1920 года, на Грамніцы, ва ўзросце 36 гадоў.

Яго магіла згубілася. Аднак мара кс. Францішка Будзькі здзейснілася: цяпер у незалежнай Беларусі беларусы-каталікі могуць маліцца, слухаць казанні і чытаць рэлігійныя выданні на роднай мове.

*Аўтар дзякуе Тарэсе Бітэль з Вішнева за фотаздымак кс. Францішка Будзькі.*

***Кастусь Шыталь***


Hod II. Wilnia 30 Studnia 1914 hodu. № 5.

BIEŁARUS

tydniowaja katalickaja hazeta.

Kasztuje s pierasyłkaj: na hod 1 rb. 50 kap. na 6 miesiacau 80 kap. addzielny numer 3 kapiejki.

Rukapisy pawinny być padpisany praudziwaj familijej dziela wiedama redakcii, inaksz nia buduć drukawany; rukapisy nie zwiertajucca. Hroszy można pasyłać pacztowymi markami.

Usio adresawać: Wilnia Wilenskaja wulica, № 18 kw. 6. Redakcija „Biełarusa“.

Szkoda mnie hetaho narodu... bo nie maje czaho jeści (słowy Chrystusa).

† Ś. P. Biskup S. Denisewicz.

Газета “Biełarus” №5, 1914 з пасмяротным успамінам пра біскупа Стэфана Данісевіча.


WYDAŃNIE „BIEŁARUSA“ № 5.

Ks. D. Bonczkoŭski.

KAROTKAJE
WYJAŚNIEŃNIE ABRADAU
R.-Katalickaho kaścioła.

eratłumaczyŭ X.

WILNIA.
Drukarnia „Znicz“, 1914 h.


Redakcija
„BIEŁARUSA“
sulić knižki:

1) Kolki słou ab pakucie. Cena 3 kap.
2) Karotki Katachizm. Cena 5 kap.
3) Karotkaja Historyja Światała. Cena 15 kap.
4) Andrej Babola. Cena 5 kap.
5) Alkahol (ab harełcy). Cena 2 kap.
6) Rady dla matak (ab hadawańni dziaciej). Cena 3 kap.
7) Z rodnaho zahonu (wierszy). Cena 5 kap.
8) Pczalina... (ab pczalarcy). Cena 30 kap.
9) Karotkaje tłumaczeńnie abradau katalickaho Kaścioła. Cena 10 kap.
10) Na szto Biełarusam hazety? Cena 3 kap.

Praz redakciju można dastawać usie biełaruskija knižki.


Ks. D. Bonczkoŭski.

KAROTKAJE
WYJAŚNIEŃNIE ABRADAU
R.-Katalickaho kaścioła.

Z polskaho pieratłumaczyŭ X.

WILNIA.
Drukarnia „Znicz“, 1914 h.

“Karotkaje wyjaśnieńnie abradau R-Katalickaho kaścioła”, пераклад з польскай мовы кс. Францішка Будзькі. З калекцыі аўтара.

# Калі пакой ператвараецца ў касцёл

**– Ідзіце за Мною, і Я зраблю вас рыбакамі людзей, – гэтыя словы Езус адрасаваў Сымону і Андрэю, якія былі рыбакамі і зараблялі гэтай справай сабе на хлеб. Мужчыны не сталі супраціўляцца закліку, не думалі пра наступствы. Яны адкінулі свае сеткі і цалкам даверыліся Богу. Так Езус прыцягнуў апосталаў да сябе.**

Да кожнага з нас Бог звяртаецца па-рознаму, клічучы прыйсці да Яго, стаць сведкам невычэрпнай любові. Хтосьці прыходзіць да трону Айца дзякуючы іншым людзям, камусьці дапамагаюць жыццёвыя сітуацыі і перыпетыі лёсу, рэлігійная літаратура і сведчанні іншых асобаў. Кагосьці Езус набліжае да Сябе праз дары і таленты, якімі Ён шчодра адарыў чалавека пры нараджэнні. Да апошняй катэгорыі можна аднесці смаргонскую мастачку Валяніну Вербіловіч, якая і падумаць не магла, што калісьці стане рэстаўратарам прадметаў рэлігійнага культу. Дзяўчына працавала з дзецьмі, далучала іх да мастацтва, а ў вольны час рабіла макеты архітэктурных пабудоў, пісала партрэты родных і блізкіх людзей. Магчыма, яе жыццё і зараз было б такім жа планамерным і спакойным, але выпадак зрабіў сваю справу.

Чарговым вечарам, вярнуўшыся з працы, Валянціна разгарнула старонку ў сацыяльных сетках і заўважыла там новае паведамленне ад аднакласніка прыкладна такога зместу: "Прывітанне, Валя! Патрэбная твая дапамога. Ксёндз хоча адрэстаўраваць фігуры анёлаў. Гэта твая тэма. Не хочаш дапамагчы?" Гэты тэкст вельмі ўзрушыў дзяўчыну. Ёй вельмі хацелася паспрабаваць свае сілы ў такой справе, аднак прысутнічаў страх: да гэтага яна не займалася падобнай дзейнасцю і вельмі баялася сапсаваць каштоўныя фігуры. Але жаданне паспрабаваць усё ж перамагло.

Асцярожна і карпатліва Валя працавала над фігурамі, стараючыся ўдыхнуць у кожную новае жыццё. І ў яе ўсё атрымалася: аднолькавыя анёлы занялі сваё месца на алтары касцёла святога Міхала Арханёла ў Смаргоні. З таго часу прайшлі амаль два гады. Пасля да таленавітай мастачкі зноў звярнуліся з просьбай дапамагчы. На гэты раз ёй давялося рэстаўраваць распяцце і некалькі фігур для аднаго з мінскіх касцёлаў. І фігуры, і распяцце былі ў дрэнным стане: адсутнічалі часткі цела, а фарба была поўнасцю злушчаная. Падавалася, што няма сэнсу брацца за такую працу. Лягчэй набыць новыя фігуры. Нягледзячы на складанасці, Валянціна не адмовіла. Дзяўчына прадумвала кожны элемент, старалася выканаць сваю працу якасна.

– Тады ў мае рукі ўпершыню трапіла распяцце. Я глядзела на ўкрыжаванага Хрыста, старалася ўявіць момант бічавання, каб дакладней перадаць сінякі і кровападцёкі, а на скуры вымаляваць кожную вену. Праца мяне цалкам захапіла. Пасля гэтага ў мяне было яшчэ некалькі распяццяў, кожнае наступнае атрымлівалася больш дасканала, бо я ўжо засвоіла алгарытм дзеянняў, навучылася правільна размяркоўваць фарбы, каб вобраз Езуса быў рэалістычным.



**Я закахалася ў гэтую працу. І зараз магу сказаць, што праца над крыжам – самая цікавая для мяне.**

Талент мастачкі заўважылі. Пакрысе ў яе пакоіку сталі з'яўляцца ўсё новыя і новыя рэчы: фігуркі Маці Божай і анёлаў, старыя абразы, падсвечнікі і крыжы. Кожны прадмет са сваёй багатай гісторыяй, таму кожны – вельмі каштоўны і цікавы. Валянціна стала заўважаць, што яе пакой ператварыўся ў маленькі касцёл. Гэта думка яе ўзрушыла і захапіла, а перад пачаткам працы дзяўчына падала на калені, малілася. І толькі пасля бралася за фарбы і пэндзлік.



Непадалёк ад роднай для Валянціны Смаргоні знаходзіцца маляўнічая вёска Залессе. Гэты куток прываблівае заўзятых падарожнікаў сваёй багатай гісторыяй, а сядзіба Агінскага з'яўляецца сапраўнай пярлінай мясцовасці. Трапляеш на тэрыторыю сядзібы – і, здаецца, пераносішся ў іншую эпоху, а перад вачыма паўстаюць адмысловыя карціны. Працяжна гудуць старыя дрэвы, апавядаючы гасцям пра падзеі, якія мелі месца тут шмат дзесяцігоддзяў таму. Ёсць на тэрыторыі сядзібы і невялічкая каталіцкая каплічка. І звонку, і ўнутры яна выглядае вельмі проста. Унутраны інтэр'ер дастаткова мінімалістычны. Аднак, заходзячы ў капліцу, позірк адразу ўпіраецца ў галоўны алтар, на якім змешчаны абраз Маці Божай Вастрабрамскай. Светлы твар, апушчаныя вочы, складзеныя на грудзях рукі – абраз Маці выклікае моцныя пачуцці, прымушае спыніцца, супакоіцца, прыслухацца да свайго сэрца і сумлення. Уся пакора, грацыя і святасць сабраныя ў адной жаночай постаці. Мацярынскім позіркам, поўным любові і ласкі, Багародзіца атуляе кожнага, хто пераступае парог капліцы. Абраз быў асвечаны ў 2020 годзе, а яго аўтарам з'яўляецца Валянціна Вербіловіч.

– У свой час мне прапанавалі напісаць абраз Маці Божай Вастрабрамскай. Аб'ём працы быў дастаткова вялікім, але я вырашыла паспрабаваць. Для мяне заўсёды складана пісаць твар, бо ў ім заключаецца ўся сутнасць абраза, закладзены настрой. Змучаны і сумны, або пакорны і светлы – задача мастака вызначыць настрой і перадаць яго на палатне. Прызнаюся, што я вельмі хвалявалася, бо абраз павінен быў заняць галоўнае месца на алтары ў капліцы. Але вобраз Маці Божай быў заўсёды вельмі блізкім для мяне. Абраз я пісала алеем, а праца над ім заняла некалькі месяцаў.

Дзяўчына заўсёды верыла ў Бога, адчувала Яго дотык і жывую прысутнасць. Аднак касцёл наведвала час ад часу. Бытавыя справы і іншыя акалічнасці не дазвалялі сістэматычна хадзіць у храм. Аднойчы, едучы ў цягніку, дзяўчына пазнаёмілася з выпадковай спадарожніцай. Тая першая пачала размову пра веру, пра Бога і Яго жывую прысутнасць у жыцці кожнага чалавека. А на памяць пра сустрэчу падарыла Валянціне некалькі папяровых каталіцкіх абразкоў. Гэтая размова вельмі ўзрушыла дзяўчыну, прымусіла пераасэнсаваць многія рэчы. Яна зазначае, што Бог заўсёды быў блізка, дапамагаў вырашаць самыя складаныя справы і атуляў бясконцай любоўю. Любімая справа зруйнавала ўсе перашкоды, якія былі ў адносінах з Айцом, Які любіць.

Валянціну часта запрашаюць на асвячэнне аднолькавых крыжоў і фігур. Дзяўчына заўсёды прымае запрашэнне і прыходзіць. Што яна адчувае ў гэты час? Гонар за сябе і за свой талент? Мастачка прызнаецца, што ў такія моманты яе сэрца перапаўняе глыбокая ўдзячнасць за тыя дары, якія яна атрымала. Усемагутны Айцец праз творчасць і талент таксама зрабіў яе "лаўцом людзей": перад абразамі, распяццямі і адрэстаўраванымі фігурамі людзі моляцца, асэнсоўваюць сваё жыццё, змяняюцца, адчуваюць прысутнасць Бога і Яго дотык, поўны любові. Гэта значыць, дзяўчына робіць свой невялічкі ўклад у вялікую справу збаўлення.

*Марта Венслававіч*







Каталіцкі ВЕСНІК
№12 (153)
снежань 2023 г..

# "У кляштар на абцасах".

## Інтэрв'ю з сястрой Ганнай Блышко

**На пачатку кастрычніка ў Глыбоцкай парафіі Святой Тройцы адбылася ўзнёслая і велічная падзея: у храм былі ўрачыста ўнесеныя рэліквіі святога Зыгмунта Шчэнснага Фелінскага. Гэты святы заснаваў Кангрэгацыю сясцёр-францішканак Сям'і Марыі. Манахіні з кангрэгацыі працуюць у Глыбокім з 1990 года.**



Сярод прысутных парафіянаў, духавенства і запрошаных гасцей, як заўсёды, блізка да алтара стаяла сястра Ганна Блышко. У гэты дзень яна дзякавала Богу за 25 гадоў манаскага жыцця.

Мы паразмаўлялі з сястрой-юбіляркай пра дарогу да паклікання, а таксама пра служэнне ў ордэне францішканак Сям'і Марыі.

– Мяне завуць сястра Ганна Блышко. Я нарадзілася ў вельмі прыгожых мясцінах, на Глыбоччыне, у вёсцы Гірстуны, што на беразе ракі Аржаніца.

**– Дзяцінства ў вёсцы, якім яно было?**

– Жыццё ў вёсцы заўсёды цікавае. Я, як і ўсе дзеці, любіла катацца на санках з горкі, часам выязджаючы на дарогу, ездзіла на роварах, збіваючы локці ды калені. У нашай вёсцы былі загоны з канямі. Мы маглі прыйсці, выбраць сабе каня і спрабаваць на іх катацца. Зараз я разумею, што Пан Бог чуваў над намі, бо гэтыя гульні былі вельмі небяспечнымі.

Увогуле, я не была прыкладнай дзяўчынкай: хоць вучылася добра, але магла рабіць гарэзлівыя ўчынкі, уступаць у спрэчкі, нават біцца з хлопцамі.

**– Якой была Вашая сям'я?**

– У маёй сям'і ўсе былі вернікамі: тата – праваслаўны, мама – каталічка. Заўсёды бацькі хадзілі ў касцёл. Бліжэйшы ад нас храм знаходзіўся ў Глыбокім, туды мы і ездзілі разам з мамай. Цікава, што ў Гірстунах было шмат католікаў, і ўсе аднавяскоўцы-католікі разам на рэйсавым аўтобусе ехалі ў Глыбокае, на святую Імшу.

У касцёле дзеці звычайна ціхенька стаялі пры бацьках. І вельмі радаваліся, калі іх запрашалі падысці блізка да алтара, да балясак. Заўсёды ў святыні вельмі прыгожа іграў арган і спяваў хор.

**– Ці маліўся Ваш тата?**

– Мой тата чытаў Біблію і навучаў сваіх дзяцей, як трэба жыць згодна са Святым Пісаннем. Назаўсёды ў памяці застанецца супольная ранішняя малітва перад школай.

Увогуле, бацькі атулялі нас малітоўнай апекай на працягу ўсяго жыцця. Думаю, што гэтая малітва вельмі нас бараніла і ў тых небяспечных момантах дзяцінства, і ў момантах, калі мы ўжо сталі дарослымі.

**– На якой мове маліліся ў вашым доме?**

– Мае бацькі маліліся на польскай мове. Гэтыя малітвы дзеці запаміналі на слых. А потым яшчэ запісвалі польскія словы беларускімі літарамі. Вядома ж, мы мала чаго разумелі з тых тэкстаў.

**– Хто рыхтаваў Вас да першай Святой Камуніі?**

– Трывалі часы атэізму. Асноўным ісцінам веры і катэхізісу нас навучалі бацькі. Потым групу дзяцей з Гірстуноў прывезлі ў касцёл здаваць экзамен. Перад святаром трэба было расказаць малітвы, якія мы вывучылі. Я вельмі хвалявалася, што на экзамене ў мяне запытаюцца "Wierzę w Boga Ojca". Скажу шчыра, гэтую малітву перад Першай Камуніяй я так і не вывучыла.

**– Вашая першая Святая Камунія, ці запомнілася яна Вам?**

– На жаль, гэта не было так прыгожа і ўрачыста, як цяпер. Мы здалі экзамены, паспавядаліся ў закрыстыі і падчас Імшы прынялі Цела Хрыста. Ніхто тады не патлумачыў мне, наколькі той момант быў важны і непаўторны.

**– Як ставіліся да вучняў-вернікаў у школе?**

– У мае школьныя гады веру ў Бога трэба было захоўваць у таямніцы. Калі даведваліся, што вучань ходзіць у касцёл, то выклікалі на лінейках і публічна высмейвалі.



Часам на такіх лінейках стаяла і я. Але мне ніколі не было сорамна, бо змалку ў маёй сям'і я бачыла веру бацькоў і разумела, што быць каталічкай – гонар і шчасце.

**– Ці ўдалося зберагчы зерне веры ў гады юнацтва?**

– Часы былі сапраўды складаныя што да рэлігійнага жыцця. Не было заняткаў катэхезы, спатканняў, пілігрымак і актыўнасцяў, якія б маглі зацікавіць нас, маладых. У юнацтве мне здавалася, што ў касцёл ходзяць выключна бабулькі, якія ўжо не могуць хадзіць на дыскатэку.

Часам мы з сяброўкамі ездзілі на Імшу, але рабілі гэта нерэгулярна, калі з'яўлялася такое жаданне. Вядома ж, у суботу была дыскатэка, а нядзельным ранкам зусім не хацелася ўставаць, каб паехаць у храм.

**– Якую адукацыю Вы атрымалі?**

– Напачатку я скончыла Віцебскую ветэрынарную акадэмію, потым зразумела, што хачу працаваць у школе з дзецьмі. Таму зноў стала студэнткай – паступіла ў педагагічны інстытут, каб вывучаць псіхалогію.

**– Ці знайшлі Вы дарогу да храма, калі апынуліся на вучобе ў Віцебску?**

– Дзіўна, але падчас вучобы мне не сустрэлася ніводнага касцёла. Сярод студэнтаў пра Бога і рэлігію ніхто не размаўляў, тады гэта было "не модна". Таму я хадзіла ў касцёл, толькі калі прыязджала ў Глыбокае. Лічыла сябе верніцай, але да споведзі прыступала раз на год, зрэдку прымала ўдзел у святой Імшы.

**– А калі з'явіліся думкі пра пакліканне? Ці былі сёстры, якія натхнялі Вас сваім служэннем?**

– У той час у Глыбоцкай парафіі працавала сястра Альжбета. Часам, гледзячы на яе, мне станавілася цікава, як яна жыве, што есць, дзе спіць: звычайныя бытавыя пытанні. Калі вучылася ў педагагічным інстытуце, пачалі адкрывацца касцёлы, на вуліцах горада можна было сустрэць святара ці законную сястру, але яны жылі сваім жыццём, а я сваім.

Аднойчы захварэла мая мама. Трэба было запрасіць святара, каб удзяліць ёй сакрамант намашчэння хворых. Пробашчам у Глыбокім быў тады ксёндз Кірыл Клімовіч. Мы разам ехалі да мамы ў Гірстуны, і я лічыла, што нельга проста ехаць і маўчаць, таму прыдумвала тэму для размовы.

Чамусьці я пачала пытацца ў святара менавіта пра жыццё і служэнне сясцёр у парафіі. Ксяндзу Кірылу спадабаліся гэтыя пытанні, ён нават запрасіў мяне прыехаць і паразмаўляць з сястрой-настаяцельніцай кляштара.

**– Гэтая сустрэча адбылася?**

– Так, праз некаторы час я прыйшла да сястры Альжбеты. Яна распавядала пра тое, як жывуць у манастыры, пра ордэн сясцёр-францішканак Сям'і Марыі. Мяне захапіла гэтае прыгожае служэнне, духоўнасць, прыклад святога Францішка і я сказала сама сабе: "Усё, пайду да сясцёр". Але потым я забылася на сваё жаданне.

**– Калі Вы зноў пра яго ўспомнілі?**

– Летам, калі пайшла ў пілігрымку ў Будслаў. Там я сапраўды спаткалася з Маці Божай і вельмі моцна перажыла гэтую сустрэчу. Пілігрымка і малітва ў Будславе ўзмацнілі ўва мне голас паклікання. І ўжо восенню я паехала ў Варшаву ў кляштар да сясцёр-францішканак Сям'і Марыі. Так 25 гадоў таму, якраз ва ўспамін святога Францішка, распачалося маё манаскае жыццё.

Памятаю, што ў свеце я заўсёды насіла абутак на абцасах. Іншага абутку ў мяне была хіба што адна пара. Таму сабе ў чамадан я паклала туфлі на абцасах. Я была ўпэўненая, што ў манастыры яны мне абавязкова спатрэбяцца.

**– Ці было цяжка вяскоўвай беларускай дзяўчыне жыць і распачынаць служэнне ў сталіцы Польшчы?**

– Я адчувала сябе вельмі добра, бо са мной разам былі дзяўчаты з Беларусі – сястра Тацціяна і сястра Вераніка, якія ў гэтым годзе таксама адзначаюць 25 гадоў манаскага жыцця.

Шчыра кажучы, я нават не вельмі сумавала па доме. І ў гэтым таксама вялікую ролю адыгралі мае бацькі. Я ўдзячная ім за тое, што яны ніколі не бедавалі з прычыны таго, што я паехала так далёка і так надоўга. Мама і тата і надалей маліліся за мяне, радаваліся майму пакліканню. А пасля першых манаскіх шлюбаў я зноў вярнулася ў Глыбокае ўжо ў якасці законнай сястры.

**– Якія пачуцці ў Вас былі, калі даведаліся, што едзеце служыць у родную парафію?**

– У манастыры нас вучылі прымаць Божую волю ў пакоры. Таму я проста адчувала супакой: ані радасці, ані смутку ці расчаравання. Дарэчы, добра памятаю, калі ехала ў кляштар, то была ўпэўненая: у Глыбокае я ніколі не вярнуся. Але ў Бога іншыя планы і 22 гады з 25-ці манаскага жыцця я прысвяціла служэнню менавіта тут.

**– Што найбольш падабаецца менавіта ў Глыбокім?**

– Найлепшае ў нашай парафіі – людзі. Яны сапраўды асаблівыя і адрозніваюцца ад людзей у іншых мясцінах. Тут свецкія заўсёды падтрымліваюць духавенства: святароў і сясцёр. Кожны, хто прыязджае сюды на служэнне, адчувае сябе важным і патрэбным.

**– Якія абавязкі Вы маеце ў парафіі?**

– Асноўнае маё служэнне – гэта катэхезацыя дзяцей і моладзі. Магу сказаць, што на працягу манаскага жыцця займаюся тым, пра што заўсёды марыла. Апроч заняткаў па катэхезе разам з дзецьмі і моладдзю мы молімся на ружанцы і ўдзельнічаем у касцельных набажэнствах на працягу года. Таксама выязджаем на канікулы з Богам, арганізоўваем тэатральныя пастаноўкі, проста весела бавім час.

Я вельмі люблю распавядаць дзецям пра Бога, люблю назіраць, як яны сталеюць, становяцца лепшымі, прыступаюць да Першай Камуніі і стараюся, каб ім у касцёле было ўтульна і цікава.

**– Сёння, калі за плячыма 25 гадоў манаскага жыцця, якія думкі Вы маеце на сэрцы?**

– Маё сэрца палае ўдзячнасцю Пану Богу за дар паклікання! Я вельмі шчаслівая, бо магу служыць менавіта ў Глыбокім. Магу з упэўненасцю сказаць, што тут мне падабаецца ўсё: прырода, прыгажосць азёраў і блакітныя нябёсы. Я люблю людзей і дзякую Богу за тых, каго Ён паставіў на маім манаскім шляху. Усе гэтыя людзі цудоўныя, кожны чалавек непаўторны і вельмі мне дарагі. Таксама я стараюся атуліць апекай усіх дзетак, з якімі займаюся. Усіх, каго маю ў сэрцы, аддаю ў малітве Богу і Маці Божай!

*Размаўляла*
***Вікторыя Філіпенка***

# Калядная пастырская сустрэча з духавенствам Віцебскай дыяцэзіі прайшла ў Наваполацку

**14 снежня, ва ўспамін св. Яна ад Крыжа, святары і сёстры прыбылі ў касцёл Найсвяцейшага Сэрца Езуса, каб памаліцца з біскупам Алегам Буткевічам і скласці пажаданні з надыходам святаў Божага Нараджэння.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Падчас адарацыі духавенства і кансэкраваныя асобы маглі ў цішыні прадставіць Езусу свае клопаты, просьбы і падзякі. У гэты час кожны мог скарыстацца магчымасцю сакраманту споведзі і пакаяння. Асабліва гэтаму паспрыяла канферэнцыя кс. Валерыя Марціноўскага, якая прысвячалася рахунку сумлення і была распрацаваная спецыяльна для святароў і манаскіх асобаў. "Ці сур'ёзна я думаю пра святасць у святарстве / манаскім жыцці? З якой руплівасцю складаю Найсвяцейшую Ахвяру? Ці звяртаю ўвагу на святыя вобразы? Ці прыемна мне трываць перад Езусам у маўклівай адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту?" і шмат іншых пытанняў прыгадаў святар, заахвочваючы прысутных да шчырага раскаяння і асабістага засяроджвання перад Богам.





Святую Эўхарыстыю цэлебраваў біскуп Алег Буткевіч. Прывітаўшы прысутных, ва ўступным слове іерарх заахвоціў, каб гэтая сустрэча і дзяленне простым знакам белага хлеба абудзіла ў прысутных пошук еднасці, згоды і прымірэння адзін з адным.

Прамаўляючы Божае слова, біскуп Алег засяродзіў увагу на духоўнай падрыхтоўцы як саміх святароў, так і парафіянаў. "Нельга быць перманентным. Трэба прыгадаць сабе пра клопат пра збаўленне ўласнай душы і час ад часу "выплываць на глыбіню". Калі мы гэтага не будзем рабіць, то ад каго чакаць?" Іерарх заклікаў быць прыкладам годнага хрысціянскага жыцця і захоўваць святарскі аўтарытэт.

Пасля св. Імшы адбылася кароткая арганізацыйная сустрэча, падчас якой біскуп Алег і канцлер кс. Віктар Місевіч адказалі на пытанні, а таксама пазнаёмілі прысутных з запланаванымі падзеямі на надыходны 2024 год і неабходнымі справаздачамі. Затым у касцёле ўсе прысутныя дзяліліся аплаткам і выказвалі самыя шчырыя пажаданні адно аднаму.



## На студзень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**3** студзеня – дзень нараджэння адзначаюць **а. Анджэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*;

**6** студзеня – дзень нараджэння адзначае **кс. канонік Вячаслаў Барок**;

**8** студзеня – дзень нараджэння адзначае **кс. Яўгеній Шымановіч** *(Орша)*;

**12** студзеня – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Андрэй Таўрук** *(Дунілавічы)*;

**18** студзеня – гадавіну біскупскай сакры адзначае **біскуп Алег Буткевіч**;

**19** студзеня – імяніны адзначаюць **кс. Генадзій Ляўкоў, кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі)*;

**21** студзеня – імяніны адзначае **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** *(Удзела)*;

**27** студзеня – дзень нараджэння адзначае **кс. пралат Аляксандр Рагіня** *(Грузія)*;

**29** студзеня – імяніны адзначае **кс. Валерый Орсік** *(Дзеркаўшчына)*;

**31** студзеня – дзень нараджэння адзначае **кс. Юрый Жаўняровіч** *(Ахрэмаўцы)*.



*Падрыхтаваў*
***кс. кан. Віктар Місевіч***

## Гадавіна смерці святароў у студзені, якія працавалі на тэрыторыі Віцебскай дыяцэзіі:

† 06.01.1997г. - кс. Стэфан Пракурат SDS
† 09.01.2010г. - кс. пралат Юзаф Булька
† 18.01.2008г. - кс. Міхал Віняж
† 20.01.2016г. - а. Антоні Лось MIC(iuniore)

*Вечны адпачынак дай ім, Пане, а святло вечнае няхай ім свеціць. Амэн.*

# Тэст. Божае Нараджэнне

**1 Які арнат апранае святар падчас Вігіліі Божага Нараджэння?**



**А.** Белы
**Б.** Ружовы
**В.** Фіялетавы

**2 Чые гэта словы: "Зачнеш ва ўлонні сваім Сына і дасі Яму імя Езус"?**



**А.** Альжбеты, сваячкі Марыі
**Б.** Прарока Ісаі
**В.** Анёла Габрыэля

**3 Чаму Юзаф прыняў Марыю?**



**А.** Не хацеў засмучаць Марыю сваёй адмовай
**Б.** Анёл з'явіўся яму ў сне і сказаў прыняць Яе
**В.** Не хацеў адмяняць вяселле

**4 Як адрэагавала Марыя на словы анёла: "... поўная ласкі, Пан з табой, блаславёная ты між жанчынамі..."**



**А.** Спалохалася
**Б.** Абрадавалася
**В.** Збянтэжылася

**5 Адна з прыгожых традыцый на Божае Нараджэнне – перадача святача (агню) з гэтага горада па ўсім свеце. Што гэта за горад?**



**А.** Бэтлеем
**Б.** Ерусалім
**В.** Назарэт

**6 "Напачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Богам было Слова <...> І Слова сталася целам, і пасялілася між намі". У якой кнізе Бібліі ёсць гэтыя словы?**



**А.** Евангелле паводле св. Яна
**Б.** Евангелле паводле св. Лукі
**В.** Кніга Быцця

**7 Чаму Святая Сям'я перад нараджэннем Збаўцы пайшла ў Бэтлеем?**



**А.** Каб уцячы ад Ірада
**Б.** Каб зарэгістравацца ў перапісе
**В.** Вярталася да дому

**8 У якім з Евангелляў ёсць аповед пра трох мудрацоў?**



**А.** Евангелле паводле Лукі
**Б.** Евангелле паводле Марка
**В.** Евангелле паводле Мацвея

**9 Чаму мудрацы прыйшлі спачатку ў Ерусалім?**



**А.** Каб пакланіцца Іраду
**Б.** Яны шукалі, дзе народжаны Кароль юдэйскі
**В.** Каб запрасіць Ірада пайсці з імі

**10 Чаму мудрацы вярталіся ў свае краіны не той дарогай, па якой прыйшлі ў Бэтлеем?**



**А.** Каб не вяртацца да Ірада
**Б.** Пасля сустрэчы з Езусам захацелі перамяніць сваё жыццё
**В.** Таму, што зорка больш не паказвала шлях

Правільныя адказы на с. 16

*Падрыхтавала*
***Лаліта Арлоўская***

# “Нашыя сэрцы палаюць аднолькава”. З будняў каталіцкай сям’і

**Тата моліцца, чытае ўрывак з Евангелля, пасля чаго іншыя чальцы сям’і злучаюцца, адгаворваючы дзясятку Ружанца. Затым ён узгадвае ўсё добрае, што адбылося за мінулы год, і звяртаецца да родных з падбадзёрвальным словам на будучае. Сабраныя дзеляцца аплаткай, складаюць адно аднаму пажаданні, смяюцца. Нарэшце тата сядае за фартэпіяна, і ўсе, ад малога да вялікага, зацягваюць на розныя галасы калядныя песні.**

### Найлепшая спадчына

Гэтымі ўспамінамі са святкавання Божага Нараджэння дзеліцца Паўліна Гардзіенка, якая паходзіць са шматдзетнай каталіцкай сям’і. Жанчына ўзгадвае, што калядная атмасфера ў яе родным доме была настолькі ўтульнай, што на Божае Нараджэнне да іх заўсёды завітвалі сябры ці сваякі, нават нявернікі, каб проста пабыць побач. *“Словы, з якімі да нас звяртаўся тата напярэдадні Калядаў, трымалі мяне на плыву на працягу ўсяго года. Ён нагадваў, каб мы заставаліся каля Бога, нягледзячы на цяжкасці, і заўсёды мелі ўдзячнае сэрца”,* – адзначае жанчына.

Тата Паўліны ў сваіх малітвах заўсёды прасіў для дачок мужа-католіка, і сёння Паўліна мае ўжо сваю вялікую сям’ю.*“Я была адкрытая на ўсіх. Але, зразумела, калі супадаюць каштоўнасці, то менш складанасцяў будзе ў супольным жыцці. З будучым мужам пазнаёмілася ў “Рыбах”* (хрысціянскі музычны праект – заўв. аўт.). *Я грала на клавішах, а ён быў гітарыстам. Разам мы ездзілі на рэпетыцыі і вярталіся з іх,* – кажа суразмоўца. – *Неяк Юрый спытаўся ў мяне, ці хачу я, каб мы сталі парай. І дадаў, што толькі пры ўмове, калі гэта прывядзе да шлюбу. Мне, шчыра кажучы, вельмі спадабалася такая рашучасць і сур’ёзны падыход да адносінаў. Памаліліся супольна Ружанец, і з таго часу больш не расставаліся”.*

### Колькі Бог задумае, столькі будзем мець дзетак

У сужэнстве Паўліна і Юрый ужо шэсць гадоў. Маюць трох дачок: Моніку, Веру і Марыку. Жанчына падкрэслівае, што быць бацькамі – гэта самае лепшае служэнне, якое мог даць ім Госпад. Аднак разам з тым прызнаецца, што яно не пазбаўленае цяжкасцей і патрабуе шматлікіх лайфхакаў, каб з ім спраўляцца. І першае, на што звяртае ўвагу наша суразмоўца, – гэта не забывацца пераводзіць позірк з дзяцей на свайго сужэнца ці сваю сужэнку. *“Дочкі займаюць большую частку часу і думак. Аднак некалі яны вырастуць, мы з мужам застанёмся ўдваіх, і нам трэба будзе пра штосьці размаўляць. Калі мы ўсвядомілі гэта, то пачалі больш прысвячаць адно аднаму. І ведаеце, гадзіна ці дзве, праведзеныя разам, – самыя шчаслівыя ў нашых сямейных буднях. Стольki ёсць усяго абмеркаваць, акрамя дзетак, што, падаецца, жыцця не хопіць”,* – распавядае Паўліна.

Час, які сужэнцы праводзяць разам, яны бавяць па-рознаму. Раз на тыдзень пакідаюць вечар для музычнага служэння. Запісваюць аранжыроўку для “Рыбаў” ці кампазіцыю для тэлеграм-канала “Спевы”, дзе размяшчаюць хрысціянскія песні, перакладзеныя на беларускую мову. Любяць і простыя адпачынак: выпіць гарбаты са слодычамі ці паглядзець фільм. *“Акрамя таго, вельмі важна даваць адпачыць адно аднаму ўвогуле без сям’і. Гэта патрэбна для аднаўлення асабістага рэсурсу. Калі мне хочацца прагуляцца з сяброўкай ці па магазінах, муж з лёгкасцю мяне адпускае”,* – дадае Паўліна.

Час, які сям’я Гардзіенкаў праводзіць упяцёх, таксама належыць да найкаштоўнейшых момантаў. *“Дзеля гэтага мы шукаем занядкі, якія падабаюцца ўсім. Нядаўна мы зразумелі, што наша сям’я любіць настольныя гульні, і таму заўсёды намагаемся прыкупіць якую новую і цікавую. Навучыць дзяцей не засмучацца праз паразу – таксама асобны клопат”,* – кажа Паўліна.

Разважаючы над спосабамі, якія прыводзяць да балансу ў сямейным жыцці, Паўліна акцэнтуе ўвагу і на неабходнасці падзелу абавязкаў паміж сужэнцамі: *“Гатуем мы часта разам. Калі трэба пагуляць з дзецьмі, то няма праблемы зрабіць гэта па чарзе, бо муж працуе аддалена. Ёсць справы, якімі займаюся толькі я. Напрыклад, паходы па паліклініках. Ёсць і тое, за што адказвае выключна Юрый”.*

Суразмоўца падкрэслівае і вялікую ролю дару супольнасці ў сямейным жыцці – праекта “Рыбы”. Адышоўшы збольшага ад музычных справаў, удзельнікі гурта захоўваюць цесныя зносіны, сустракаюцца на адмыслова для іх арганізаваных сямейных рэкалекцыях і малітоўных сустрэчах. *“Ва ўсіх нас шмат дзетак. Цудоўна, калі мы з мужам маем агульных сяброў, можам падтрымліваць адно аднаго і разам узрастаць у веры”,* – заўважае Паўліна.

### “Мы ведаем Госпада”

За правіламі, паводле якіх функцыянуе сям’я Гардзіенкаў, стаіць моцны духоўны бэкграўнд. І хоць ён не вызваляе ад канфліктаў, але дапамагае не засяроджвацца на іх, прысвячаючы час куды больш важным рэчам. *“Калі адчуваю, што ўва мне ўсё кіпіць, звяртаюся па мудрасць да Марыі. Я ўпэўненая, што ў Яе жыцці таксама здараліся моманты злосці і сітуацыі горшыя, чым мае. Заўсёды пытаюся, як бы паступіла Яна? І мне стала спраўляцца лягчэй. Найсвяцейшая Панна сее ўва мне добрыя думкі. Вучыць пакоры. Я раскрыла Яе як Заступніцу жонак і маці”,* – дзеліцца Паўліна.

Пару гадоў назад у сям’і Гардзіенкаў з’явілася супольная вечаровая малітва. Спачатку моляцца дзеткі тымі словамі, што склалі самастойна. Пасля хто-небудзь прамаўляе падзякі і кожны далучае сваю інтэнцыю. Затым ідзе дзясятак Ружанца, малітва да Крыві Хрыста і за ненароджаных дзяцей. Падаецца, малітва доўжыцца бясконца, але насамрэч – дзесяць хвілін. *“Добрая традыцыя, каб падвесці вынікі дня. Зразумела, спачатку дзяўчатам было складана трываць на малітве. Усё пыталіся, калі мы ўжо скончым. Але цяпер, нават калі мы з мужам забудземся пра малітву праз стомленасць, дзеці без яе спаць не лягуць. І няважна, дзе мы начуем. Гэта неверагодна аб’ядноўвае”,* – прызнаецца верніца.

Дзякуючы тэлеграм-каналу “Спевы” Паўліна часта грае дома. Дзяўчаты далучаюцца да яе, акампануюць на інструментах. Шмат песень ім даспадобы, і гэтыя сесіі ператвараюцца ў паўгадзінныя малітвы праслаўлення. *“Я цешуся, што першыя песні, якія даведваюцца мае дзеці, пра Бога. І яны ў іх у большым прыярытэце, чым сучасная музыка. Неяк у садку дачка заспявала “Ахоўвай нас, Марыя!”,* – узгадвае з усмешкай Паўліна. – *Евангелізавала прысутных”.*

### Ствараючы ўласны запавет

Хоць сужэнцы паходзяць з розных куткоў Беларусі, Паўліна са Смаргоні, а Юрый – з Пружанаў, калядныя традыцыі маюць аднолькавыя. І пры гэтым вынаходзяць новыя. *“Штогод я раблю адвэнтавы каляндар для дзяцей. Згодна з колькасцю дзён у посце, размяшчаю ў розных формах – канвертах, торбачках – адмысловыя заданні і падарункі. Калі дочкі выконваюць практыкаванне – атрымліваюць сюрпрыз. Заданні самыя розныя: даць пацалункі родным ці прачытаць гісторыю з Евангелля. Такім чынам мы пазнаёміліся з усёй дзіцячай Бібліяй!”* – адзначае суразмоўца.

Муж Паўліны сваімі сіламі будуе дом, у які яны мараць у хуткім часе перабрацца і збіраць на Божае Нараджэнне ўсіх родных. Сядаць за вялікі стол, маліцца, пазнаваць Слова. *“Толькі пакуль без калядных песень за фартэпіяна,* – дадае Паўліна. – *Але спадзяюся, гэта неўзабаве”.*

***Ангеліна Марцішэўская***


Сям'я Гардзіенка ў калядны перыяд разам з супольнасцю "Рыбы"



# Точную копию роттердамского органа установили в католическом храме в Кемерово

**Уникальный музыкальный инструмент привезли в Кузбасс. В кемеровском католическом храме установили двухтонный орган. Это копия самого большого органа в Европе, который находится в кафедральном соборе Роттердама, сообщает vesti42.ru.**

Цифровой орган внешне ничем не отличается от механического голландского собрата. У этого музыкального инструмента – 63 регистра, три ручных и одна ножная клавиатура. Мощный процессор и специальная операционная система позволяют быстро включать один из 7600 голосов и тембров. Сейчас идет настройка органа.

Специальный заказ из Польши в Кемерово ждали почти год. Кемеровский инструмент способен воспроизвести оригинальный звук механического органа из Роттердама, прописаны даже удары пальцев о клавиатуру. Двухтонная конструкция благодаря колесикам может передвигаться по залу. На этом органе можно исполнять любую музыку – от ренессанса, барокко до современных композиций.

“У нас уже много лет существует проект “Музыка в храме”. К нам приезжают известные органисты, которые исполняют свои произведения в этом пространстве. Приглашаю всех, кто хочет участвовать в этих событиях, – они открыты для всех”, – рассказал священник Павел Юрковски, настоятель католического прихода города Кемерово.



# Свидетельство алкоголика



**Геннадий прошёл долгий путь: от простого осознания своей проблемы с алкоголем до её решения. Несмотря на все трудности и срывы, он продолжал искать выход из проблемы. Теперь Геннадий выздоравливает.**

Я Гена, алкоголик. Мне было около 5-6 лет, когда я впервые выпил. Мой отец что-то пил с друзьями в тот день, а я баловался под столом. Отец попробовать бы не разрешил, а мне было очень интересно, что это, поэтому я потянулся из-под стола и незаметно стащил рюмку. Вкус алкоголя или его последствий в тот день я не помню. Папа назвал это гадостью, отругал меня и продолжил пить с друзьями. А мне было обидно, что им можно, а мне нельзя.

Когда я тал постарше, меня уже никто водкой не ограничивал. Дома у меня алкоголь был всегда, потому что бабушка гнала самогон. Я мог брать сколько хотел, также друзьям принести. Тогда я не столько сам хотел выпить, сколько соответствовать компании старших, с которыми я общался.

В 10-11 классе на новый год я с компанией друзей пошел в клуб. Они были старше меня лет на семь. Ребята мне предложили выпить шампанского. Я не хотел выпивать, но и выбиваться из компании тоже не хотелось, тем более с ними были их девушки, перед которыми не выпить было стыдно. В ту ночь я больше ничего не запомнил. На следующее утро мне было очень плохо, как физически, так и морально, когда мне рассказали, что я наделал.

Во взрослой жизни я уже регулярно употреблял.

**Я пропил больше половины своей жизни.**

Мне всё ещё стыдно пересматривать видео со своей свадьбы. Не помню точно, когда понял: что-то в этом не так. Возможно, когда увидел на улице человека, который уже потерял всё из-за алкоголя. В тот момент внутри возник страх, что я такой же, уже пропил себя, пришёл к точке, в которой это всё принимаю как норму. Тогда я понял, что надо что-то делать.

Когда семья узнала о моей проблеме, родные советовали мне не пить одному. Мне это не помогало. Ничто из того, что я пробовал самостоятельно, мне не помогало. Я понимал, что сам со своей проблемой ничего не сделаю, тогда решил закодироваться. Но мне было очень страшно, что кто-то узнает. В деревне, где я рос, мнение людей очень важно. Я стал придумывать разные пути, чтобы и закодироваться, и на меня никто не подумал. Скоро мой знакомый попросил меня подвезти его на кодировку, я с радостью согласился, надеясь, что и сам смогу незаметно закодироваться. Но незаметно не получилось ... В тот момент, когда меня спросили, хочу ли я закодироваться, я хотел только провалиться сквозь землю. Но мне пришлось признаться перед всеми, это было очень стыдно и страшно. Меня ещё долго не отпускала та ситуация. Я постоянно думал, что те люди могут кому-то рассказать, думал, какое теперь будет обо мне мнение. Это сильно мешало выздоровлению.

За кодировку я держался, меня сильно напугали врачи, тот год я не пил. Но кодировка на меня сильно давила, я не мог чувствовать себя свободно. Целыми днями думал о том, чтобы скорее выпить. Казалось, вот выпью уже и забуду это всё как страшный сон. Поэтому, когда время прошло, я вернулся к прежнему образу жизни.

Примерно лет семь назад мой знакомый организовывал в моём городе первую группу АА. Он дал мне книгу "12 шагов" и карандашом оставил свои подсказки. Я постоянно носил эту книгу с собой, читал, стал ходить на группу, но употреблять не перестал. В первый раз, помню, мы собрались в беседке около гостиницы, от меня шёл ужасный запах перегара. Я хотел научиться пить, я не хотел бросать. Два года я ходил на ту группу, а после группы мог поехать напиться. Часто срывался, дома не ночевал, снимал где-то в гостинице номер, выпивал там, чтобы никто не видел.

На группе я узнал, что на самом деле моя проблема заметна для окружающих. Это меня очень напугало, и я решил, что буду пить только тогда, когда этого не будет видно. На следующий день я проснулся и понял, что мой нос посинел. "Значит, сегодня я не пью", – сказал я себе и в тот день остался трезвым.

Ребята на группе говорили о принятии решения больше не пить. А у моего сына скоро должна была быть свадьба. У меня скоро – юбилей. Как я мог не выпить вместе со всеми на этих событиях, это же проявление неуважения...

**Как так вообще жить, если не пить? Этого я не мог понять.**

К тому же и на работе всё складывалось так, чтобы я продолжил пить. Начальство видело проблему, но меня терпело, может, от того, что в своём деле я специалист. А где-то везло до времени. Это развязывало мне руки.

А потом я дошёл до точки... Я подружился с одним коллегой. Обычно мы вместе вечером шли выпивать после работы. А потом он пошёл в отпуск и предложил вместе выпить на выходных. Вечер постепенно перетекал в ночь, ночь в день... Когда я опомнился, прошла уже неделя. Невыносимо болела печень, голова раскалывалась, я понимал, от чего это, но остановиться не мог. Выпивал – становилось немного легче.

В тот момент в голове что-то переключилось, я встал из-за стола и сказал своему другу: "Всё, надо что-то делать". Я решил, что сделаю всё, только чтобы перестать пить.

Тогда я стал ещё больше читать про "12 шагов" и понял, что в той группе мы прошли только три. Мне очень нравилось в своей группе, мы собирались, разговаривали, слушали друг друга, но это помогало только дня два, а потом я возвращался в прежнее состояние. Я понял, что продолжать это бесполезно, и начал искать другую группу, которая смогла бы помочь мне пройти четвертый шаг – осознание и принятие своих слабостей.

В группу "12 шагов" я попал два года назад. Там мне сразу подсказали, как делать шаги правильно. Тогда программа действительно стала работать, мне становилось легче. Я больше не цепляюсь за мнение других, чувствую себя свободным.

*Записала*
***Лолита Орловская***

# Как спастись от алкоголизма?

**"Анонимные алкоголики" – это содружество, объединяющее мужчин и женщин, которые делятся своим опытом, силами и надеждами с целью помочь себе и другим избавиться от алкоголизма.**



• Единственное условие для членства – это желание бросить пить.

• Мы не платим ни вступительных, ни членских взносов.

• Мы сами себя содержим благодаря нашим добровольным пожертвованиям.

• Сообщество не связано с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или партией; не вступает в полемику по каким бы то ни было вопросам, не поддерживает и не выступает против чьих-либо интересов.

• Наша основная цель: оставаться трезвыми и помочь другим алкоголикам обрести трезвость.

У нас есть программа выздоровления от алкоголизма **(12 шагов)**, которая изложена в книге "Анонимные алкоголики". Она основывается на духовных принципах, которые являются ориентацией на общечеловеческие ценности: любовь к людям, стремление к взаимопомощи, добру и самосовершенствованию.

**12 Шагов АА** – это образ жизни, позволяющий страдающему алкоголику освободиться от пристрастия к алкоголю и стать счастливым и полезным человеком.

Для прохождения программы мы применяем принцип наставничества. Наставничество – это работа по передаче опыта прохождения программы **(12 шагов)** от одного алкоголика другому, а также постоянная ответственность за оказание помощи новичку, чтобы он мог научиться жить без алкоголя.

**Круглосуточная горячая линия АА:**
+375 (29) 276-83-17
+375 (44) 780-73-29

**Где нас найти?**

**г. Витебск**
Группа "Возрождение"
Ул. Гагарина, 46а, костел святого Антония
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.30, воскресенье (открытое собрание) – 14.30.
+375 (33) 696-45-88

**г. Орша**
Группа "Выход есть"
ул. Советская, 6, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00
+375 (29) 590-55-86

**г. Новополоцк**
Группа "Лотос"
ул. Я. Коласа, 52, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00-20.00, воскресенье – 15.00-17.00. Последнее воскресенье месяца – открытое собрание совместно с группой Ал-Анон.
+375 (33) 683-12-76

**г. Браслав**
Группа "Истина"
Ул. Советская, 2.
Расписание собраний: воскресенье – 10.00
+375 (33) 359-97-02

**г. Лепель**
Группа "У озера"
Ул. Ленинская, 12, костел.
Расписание собраний: вторник, четверг – 18.00, суббота – 17.00
+375(29)729-63-70
+375(29)704-72-60

**г. Глубокое**
Группа "Точка отсчёта"
Ул. Советская, 4.
Расписание собраний: воскресенье – 15.00
+375 (29) 519-03-21

**г. Поставы**
Группа "Радость"
Ул. Набережная, 8.
Расписание собраний: среда и воскресенье – 18.00
+375 (29) 737-47-64

**г.п. Шумилино**
Группа "Свет"
ул. Светлосельская 2
суббота 15.00
тел. +375 29 8173632
эл. почта: mifik29@gmail.com

**г. Полоцк**
Группа "Секрет выздоровления"
ул. Держинского 50.
Расписание собраний:
среда 19:00, суббота 19:00
тел. +375 29 7019101

**Ал-Анон** – это содружество родственников и друзей алкоголиков, которые делятся друг с другом своим опытом, силой и надеждой, чтобы решать наши общие проблемы. Мы верим, что алкоголизм – это семейная болезнь, и что перемена отношения к ней способствует выздоровлению. Группы Ал-Анон не связаны с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или сообществом, не участвуют в полемике по каким бы то ни было вопросам, не касающимся нашей деятельности. У нас одна цель – помочь семьям алкоголиков.

**Инфолинии сообщества Ал-Анон Беларуси:**
+375 (29) 550-54-24 инфолиния
+375 (44) 515-29-56 офис РОО
www.alanon.by – сайт сообщества Ал-Анон Беларуси.

**Цэнтр дапамогі залежным ад алкаголю і наркотыкаў "Светач"**

**211730, Віцебская вобласць, г.п.Бягомль, вул.Кірава, д.6**
**МТС +375 (33) 345 52 78;**
**8 (02157) 3-30-44**
**Сайт: http://aleteya.by/**



**"Светач" – месца, дзе людзі жывуць у цвярозай супольнасці цвярозым жыццём**

# Ян Хрызастом

### Пачаткі станаўлення Яна як асобы

Ян Хрызастом прыйшоў на свет у Антыёхіі Сірыйскай, якая тады была другой па велічыні метраполіяй у свеце пасля Александрыі Егіпецкай. Гэты горад быў вельмі вядомым не толькі таму, што з'яўляўся адміністрацыйным цэнтрам Рымскай імперыі, але таксама сваімі навучальнымі ўстановамі і рытарычнымі школамі.

Ён нарадзіўся ў заможнай рымскай сям'і. Яго бацька, якога звалі Секунд (імя з лацінскай мовы перакладаецца як "Другі". У тыя часы дзяцей часта называлі паводле парадку з'яўлення на свет), быў імператарскім афіцэрам, аднак, як часта здараецца ў ваенных людзей, хутка асіраціў сына, загінуўшы ў адным з баёў. Тады ўвесь цяжар выхавання лёг на маці, пабожную Антузу, каторая сваю задачу выканала на "выдатна". Ян Хрызастом пакінуў у сваіх творах вельмі добрае сведчанне пра яе пабожнасць і клопат пра сына.

Юнацтва Яна прайшло ў родным горадзе. Яму не трэба было нікуды ехаць вучыцца, бо Антыёхія магла прапанаваць усё, што было патрэбна юнакам з багатых сем'яў для атрымання грунтоўнай адукацыі. Ян рыхтаваўся ў найлепшых прамоўцаў старажытнага свету. Чаго толькі ў тыя часы каштавала імя вельмі слаўнага прамоўцы Лібанія!? Варта адзначыць, што вялікі майстар рыторыкі бачыў адным са сваіх наступнікаў менавіта Яна. Вядома, што тады нельга было абысціся без філасофскай адукацыі. Маці паспрыяла таксама таму, каб сын вывучаў Святое Пісанне. І тут зноў сярод настаўнікаў Яна мы сустракаем вядомае і гучнае імя – Дыядора, будучага біскупа Тарса.

### Што зрабіў з Янам суровы аскетызм?

Ва ўзросце дваццаці гадоў Ян Хрызастом вырашыў прыняць хрост (шырока распаўсюджаная практыка ў тыя часы) і весці хрысціянскае жыццё. І тады ён таксама вырашыў прысвяціць сябе хрысціянскаму аскетызму.

Спачатку ён жыў, як манах, дома, больш аддаючыся малітве і вывучэнню Святога Пісання. Але ўрэшце вырашыў далучыцца да манахаў, што жылі ў гарах каля Антыёхіі, каб пераняць іх спосаб імкнення да хрысціянскай дасканаласці. Сірыйскае манаства было тады вядомым і нават славіцца сённяшні сваёй строгасцю аскезы. Ян Хрызастом пачаў практыкаваць гэту вельмі суровую і радыкальную форму манаскага жыцця… і літаральна праз чатыры гады так моцна сябе зруйнаваў, што амаль цалкам страціў здароўе. Яму нічога не заставалася, як толькі вярнуцца ў родны горад і лячыцца, змяніўшы лад свайго жыцця.

### Слаўны прамоўца

Менавіта тады Ян пачаў больш актыўна займацца душпастырствам. Ён служыў лектарам (чытаў фрагменты Святога Пісання падчас літургічных цэлебрацый) у сваёй дыяцэзіі. Затым ён атрымаў святарскае пасвячэнне і пачаў абвяшчаць свае гаміліі ў мясцовых касцёлах. Хутка яны здабылі шырокае прызнанне і вялікую папулярнасць, бо хіба што нездарма яшчэ ыторык Лібаній лічыў свайго вучня адным з найлепшых прамоўцаў. Адсюль псеўданім "Хрызастом", што азначае "Залатавусты", Ян прыдбаў сабе пасля адной прамовы, якую ён, будучы святаром, прамовіў у сваім родным горадзе.

У 387 г. у Антыёхіі адбыліся бунты супраць імператара Тэадозія Вялікага. У той час народ знішчыў усе статуі імператара ў горадзе. Вядома, гэты ўчынак люду патрабаваў вызначэння адпаведнага суровага пакарання для жыхароў, што павінен быў зрабіць намеснік імператара. Але тут у гэту гісторыю ўвайшоў Ян Хрызастом. Адной толькі сваёй прамовай ён быў здольны абараніць народ ад праліцця крыві: з аднаго боку, Ян моцна папракнуў жыхароў Антыёхіі за мяцеж і выступленне супраць імператара, а з другога, яму ўдалося ўгаварыць імператара не прымяняць сілу ў адносінах да народа. І менавіта з таго моманту, ад той вядомай прамовы Яна назвалі Хрызастомам, гэта значыць, Златавустам, бо ён мог так прамовіць, што пераконваў нават імператара.

### "Дрэнны" душпастыр

Праз дзесяць гадоў ад той вядомай прамовы новы імператар Аркадый прапанаваў Яну заняць пасаду біскупа ў Канстанцінопалі. Ён пагадзіўся і стаў патрыярхам. Аднак тое, як ён арганізаваў душпастырства ў тамтэйшым Касцёле, не атрымала асаблівага прызнання як з боку мясцовага духавенства, так і з боку імператарскага двара. Ян Хрызастом, каторы славіўся не толькі як вялікі прамоўца, але таксама як суровы аскет, рэзка абмежаваў пышнасць біскупскага двара. Ён вельмі крытыкаваў багатых людзей, асабліва імператарскі двор і асабіста імператрыцу Эўдаксію за стыль жыцця, нязгодны з Евангеллем. Патрыярх таксама моцна крытыкаваў духавенства за "раскошы" (у яго разуменні – адсутнасць аскетычнага жыцця), у якіх яно жыве. Вядомы аскетык здолеў нават увайсці ў напружаныя адносіны з манахамі, каторыя жылі у горадзе, таму што, памятаючы вопыт сірыйскага суровага "горнага" манаства, ён не разумеў, як яны могуць жыць з такім камфортам у горадзе.

Гэта ўсё, на жаль, у выніку прывяло да таго, што Ян Хрызастом займеў шмат праціўнікаў пры імператарскім двары, а таксама сярод духавенства і манаства. Калі толькі з'явілася магчымасць, неадкладна быў сабраны сінод супраць Яна. Адбылося гэта ў 403 г. у мястэчку Дуб каля Халкідона, таму гэта падзея вядомая для нас як "Сінод пад Дубам". Ян быў пазбаўлены пасады і прысуджаны імператарам Аркадыем да выгнання ў правінцыю Бітынію.

### Раптоўная смерць і літургічны культ Яна Хрызастома

У Яна Хрызастома было таксама шмат сяброў. Яны звярталіся і да Папы Рымскага, і да імператара, каб выпрасіць вяртанне Яна з выгнання. Аднак імператар застаўся непахісны. І тут Яну дапамагла падзея, якая сталася своеасаблівым "чорным лебедзем" для яго праціўнікаў. Масавыя беспарадкі, што распачаліся ў сталіцы імперыі, а таксама няшчасны выпадак у імператарскім палацы паспрыялі хуткаму вяртанню Яна на ранейшую пасаду.

Здавалася б, цяпер Ян Хрызастом павінен быў паводзіць сябе больш акуратна і дыпламатычна, нікога не крытыкаваць, з усім згаджацца… Нічога падобнага! Калі б ён так зрабіў, ён не быў бы Янам Хрызастомам! Ян не спыніўся ў крытыцы "раскошнага" жыцця ў Касцёле, а да гэтага ў сваіх казаннях пачаў выступаць супраць ідалапаклонскага – ушанавання статуі імператрыцы. За гэта імператар Аркадый другі раз адправіў Яна на выгнанне ажно на Каўказ, а жаўнерам, якія суправаджалі яго, загадаў паступаць з ім строга, не звяртаючы ўвагу на тое, што ён стомлены або хворы. І вось біскуп, каторы быў ужо ў сталым узросце, памёр ад знясілення, не дайшоўшы да месца выгнання, якое, дарэчы, за гэты час паспела змяніцца. Аднак Ян Хрызастом скончыў жыццё не наракannем ці праклёнамі, але словамі: "За ўсё дзякую Богу!"

Пасля смерці пачаў развівацца культ Яна. Яго сябры вельмі стараліся, каб наступныя сіноды адмянілі рашэнне аб пазбаўленні Яна пасады як несправядлівае. Так і адбылося. У 438 г. ён быў рэабілітаваны, а яго цела ва ўрачыстай працэсіі даставілі ў Канстанцінопаль і пахавалі ў святыні Святых Апосталаў. Імператар Тэадозій II, сын Аркадыя і Эўдаксіі, паклаў галаву на труну Яна і ў малітве прасіў яго аб дараванні бацькам.

Мы бачым, што, хоць пры жыцці Яна Хрызастома яму не ўдалося атрымаць вялікага прызнання ў Касцёле, сёння Касцёл Усходу і Захаду шануе яго як вялікага святога, каторы практыкаваў адрачэнне ад дабротаў гэтага свету і любоў да ворагаў. Ён вядомы таксама як слаўны прамоўца, якога гаміліі, прамовы, трактаты і лісты, выдадзеныя ажно ў васямнаццаці тамах, з'яўляюцца неперасягненым узорам рытарычнай прыгажосці і тэалагічнай глыбіні.

*Кс. Павел Эйсмант*

---

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*



*Паважаны галоўны рэдактар "Каталіцкага весніка" **кс. Віктар Місевіч** і ўсе супрацоўнікі рэдакцыі! Ад усяго сэрца віншую Вас з надыходам Божага Нараджэння і Новага 2024-га года! Дасылаю Вам сардэчныя пажаданні.*

*Няхай Бэтлеемская Зорка асвячае Ваш святарскі шлях, Дзіцятка Езус хай адорвае супакоем, любоўю і радасцю! Жадаю моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту, Божай ласкі і душэўнага спакою! Прашу Бога, каб справы, даручаныя Вам Богам, множыліся няспынна, каб здзяйсняліся ўсе планы і задумы!*

*Са святам! З Богам!*

***З павагай, Іосіф Гаеўскі (в. Прудцы, Шчучынскі р-н).***

---

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*



*Шаноўны **ксёндз Мікалай Лірскі**!*

*Сардэчна віншуем Вас з надыходзячымі святамі Божага Нараджэння і Новым годам! Няхай Пан Бог адорыць моцным здароўем і даўгалеццем, Святы Дух хай пасылае неабходныя дары, Маці Божая ахінае апекай і любоўю, а побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі! Плёнаў Вам у святарскім служэнні.*

*Мы выказваем сваю глыбокую пашану за працу ў нашай парафіі і просім Усемагутнага Бога аб патрэбных ласках для Вас.*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла святой Марыі Магдалены, г. Навалукомль***

---

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*



*Паважаны **кс. Вячаслаў**! Ад усяго сэрца віншуем Вас са святам Божага Нараджэння. Няхай Пан Бог блаславяляе Вас, Дух Святы вядзе Вас, Маці Божая беражэ, а анёлы і святыя дапамагаюць ва ўсіх справах.*

***Вернікі капліцы Маці Божай Вастрабрамскай, вёскі Забалоцце і Дзедзіна***

---

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*



*Паважаны **кс. Славамір**!*

*Віншуем Вас са святам Божага Нараджэння! Няхай маленькі Езус блаславіць Вас сваёй маленькай ручкай, а Пан Бог адорыць патрэбнымі ласкамі Вас і Вашу парафію.*

***Мы, удзельнікі руху АДДЧ, заўсёды чакаем Вас у сваіх касцелах у Мёрах, Ідолце і Павяццi***

---

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*



*Паважаны **ксёндз Ян Пугачоў**!*

*З надыходзячым вялікім, цудоўным, добрым і цёплым святам Божага Нараджэння! Няхай маленькі Хрыстус блаславіць Вас і адорыць усімі патрэбнымі ласкамі, прынясе супакой, радасць, здароўе і мір, а Маці Божая хай захавае Вас і ўкрые сваім плашчом! Анёлы і святыя дапамогуць у Вашай нялёгкай працы! Мы Вас любім і жадаем моцнага здароўя, даўгалецця, духоўных і фізічных сіл, цярплівасці, добразычлівых людзей побач, вясёлага настрою. З новым 2024 годам!*

***З удзячнасцю і павагай, апостальскі рух "Маргарытка", вернікі капліцы Святога Мікалая (в. Сталіца)***



# "Як *маешся*?" – "Я *не маюся*, а жыву добра!"

## *Ці ўсё правільна ў гэтых сказах?*

**У лістападаўскім нумары "Каталіцкага Весніка" мы гаварылі пра асаблівасці выкарыстання ў вуснай камунікацыі асобных фразеалагізмаў, у прыватнасці спалучэнняў *ні рыба ні мяса і ў яго не ўсе дома*. За апошнія тыдні аўтар матэрыялу атрымаў яшчэ некалькі дадатковых пытанняў адносна мэтазгоднасці ўжывання ў беларускай мове пэўных фразем.**

■ Юрась Бабіч, *кандыдат філалагічных навук*

Мы паспрабуем асвятліць некаторыя ўзнятыя праблемы ў наступных нашых публікацыях. А сёння звернемся да пытання ад чытачкі з Маладзечна (на жаль, яна сябе не назвала), якая падзялілася такой вось гісторыяй. У тэлефоннай гутарцы са сваёй пляменніцай яна спытала: *"Як ты маешся?"* На што тая нервова, нават з нейкай крыўдай у голасе адказала: *"Я не маюся, а жыву добра!"* У выніку ўзнікла пэўная няёмкасць, бо суразмоўніца нашай чытачкі па-свойму ўспрыняла сэнс пытання, праз асацыяцыю з дзеясловам **маяцца**, які ў беларускай літаратурнай мове не ўжываецца, але фіксуецца ў гаворках, сустракаецца ў размоўным стылі і з'яўляецца сінанімічным да слоў *"мучыцца, пакутаваць"*. Дык вось пытанне чытачкі "Каталіцкага Весніка" датычыць таго, ці можна так сказаць па-беларуску: **"Як ты *маешся*?"**

Адразу падзякуем нашай чытачцы і за канкрэтнае пытанне, і за добрае адчуванне беларускай мовы, за такі адмысловы, можна сказаць, вытанчаны моўны густ. І паспрабуем разабрацца з гэтай канструкцыяй.

"Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (ТСБМ. – Мінск. – 1979. – Т. 3) падае адно са значэнняў дзеяслова **мецца** як "адчуваць сябе" (с. 147). Прывядзём пару прыкладаў з тэкстаў мастацкай літаратуры: – ***Як маешся**? – разглядаючы вільготнымі вачыма сябра, спытаўся Цімка* (Уладзімір Карпаў); *Раніцой, перад пачаткам урокаў, Клава заглянула ў школьны сад: **як** там **маюцца** яе бярозкі* (Алесь Якімовіч). Ці іншыя прыклады выкарыстання згаданай канструкцыі ў кантэксце: – *Здароў! Даўно не бачыліся. Ну раскажы, **як маешся**? – Ды дзякуй, **нічога сабе маюся**... Дзеці ўжо дарослыя, параз'язджаліся. А мы з жонкай удваіх цяпер...* Або яшчэ: – *Вітаю, сябры мае! **Як маецеся**? Столькі хачу вам расказаць!..*

У прыведзеных фрагментах канструкцыя *Як маешся? (Як маецеся?)* выкарыстоўваецца са значэннем *Як у цябе справы? (Як у вас справы?)*. Гэта дастаткова папулярны беларускі зварот да чалавека ці групы асобаў, з якімі мы не бачыліся ці не размаўлялі пэўны час, каб пацікавіцца іх справамі. У сэнсе, пытанне магло б так і выглядаць: *Як у цябе справы? (Як у вас справы?)*. Калі ж аналізаваць абедзве сінанімічныя канструкцыі ў гістарычным кантэксце, то спалучэнне **як маешся** істотна даўжэй існуе ў нашай мове, чым фраза **як справы.** Ветлівы зварот **як маешся** зафіксаваны яшчэ ў пісьмовых крыніцах XV стагоддзя, хоць у рэальнасці ён ужываўся ў старажытнай беларускай мове і раней. Тут прасочваецца непасрэдная асацыяцыя з падобнай польскай канструкцыяй **Jak się masz?**, што даслоўна так і перакладаецца: **Як ты маешся?** Але няма ніякіх сур'ёзных падстаў лічыць, што беларускі варыянт пазычаны з польскай мовы. Такое падабенства тлумачыцца блізкароднасцю дзвюх моў, агульнымі тэндэнцыямі ў фарміраванні лексічнага складу на пэўным гістарычным этапе. Таму па-беларуску фраза **Як ты маешся** гучыць не проста правільна, але яна яшчэ і перадае адмысловы шматвяковы дух нашых нацыянальных вербальных традыцый, падкрэслівае вытанчанасць і далікатнасць у пастаноўцы самога пытання.

Цяпер што датычыць непасрэдна адказу суразмоўніцы нашай чытачкі на яе пытанне *"Як **маешся**?" – "Я **не маюся**, а жыву добра!"* Відавочна, аўтарам гэтага адказу няправільна разумеецца сэнс пытання, ён зблытаны са значэннем размоўнага дзеяслова **маяцца** – *"мучыцца, пакутаваць"*. У сувязі з гэтым прыгадаем досыць распаўсюджаныя забабоны наконт таго, што нельга жаніцца ці выходзіць замуж у маі: будзеш усё жыццё "маяцца". Ці варта верыць, што калі ажаніцца ў маі, то ўсё жыццё будзеш "маяцца"? На гэтае пытанне выдатна адказаў а. Аляксандр Махнач SP. Усе ахвотныя могуць знайсці яго меркаванні паводле QR-кода артыкула:



Такім чынам, у беларускай мове ўжываюцца дзве сінанімічныя канструкцыі: Як ты маешся? Як у цябе справы? Пры гэтым першая з іх, яшчэ раз падкрэслім, з'яўляецца больш старой і ў большай ступені перадае дух нашай мовы, яе этнакультурны складнік.

Спадзяёмся, што гэты матэрыял паспрыяе яшчэ шырэйшаму выкарыстанню аналізаванага спалучэння ў камунікацыі і павышэнню культуры маўлення ўвогуле.

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Валянціна Лучына** *(Слабодка)*, **Ганна Ермалёнак** *(Слабодка)*, **Аліна Гайдзель** *(Слабодка)*, **Гэлена Качаноўская** *(Слабодка)*, **Даната Далецкая** *(Слабодка)*, **Люцыя Арсюкова** *(Слабодка)*, **Тэрэза Ганчаронак** *(Слабодка)*, **Вера Дундзер** *(Слабодка)*, **Саламея Ігнатовіч** *(Слабодка)*, **Яніна Вільчынская** *(Слабодка)*, **Яніна Хвецковіч** *(Слабодка)*, **Марыя Угарэнка** *(Слабодка)*, **Ядвіга Барткевіч** *(Гаўрылаўцы)*, **Рэгіна Савіцкая** *(Гаўрылаўцы)*, **Тэрэза Стэльмачонак** *(Гавейкі)*, **Лёля Шэмель** *(Усце)*, **Дана Казачок** *(Глыбокае)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф'я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Эма Роўда** *(Новалукомль)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Крысціна Манчынская** *(Дзеркаўшчына)*, **Ала Манчынская** *(Янушава)*, **Людміла Сінкевіч** *(Глыбокае)*, **Ванда Кавалеўская** *(Лявонпаль)*, **рух "Маці ў малітве"** *(Відзы)*, **Галіна Сіманёнак** *(Паставы)*, **Караліна Сарока** *(Мінск)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Леакадзія Лаўнюжэнка** *(Новыя Габы)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Гэлена Карневіч** *(Ніўнае)*, **Станіслава Варэнік** *(Мінск)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Іосіф Гасюль** *(Ахрэмаўцы)*, **Мікалай Рагожкін** *(Новы Пагост)*, **Зінаіда Рамашка** *(Мінск)*, **Тэрэза Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Ядвіга Будзіч** *(Буяўшчына)*, **Часлава Сварцэвіч** *(Таргуны)*, **Часлава Паршута** *(Павяцце)*, **Іосіф Гасюль** *(Ахрэмаўцы)*, **Ганна Стальмачонак** *(Быстрымаўцы)*, **Алімпія Цішко** *(Старыя Габы)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Альфрэда Трус** *(Таргуны)*, **Даната Царкоўская** *(Быстрымаўцы)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Генадзь Лаўцэвіч** *(Глыбокае)*, **Станіслаў Вышадка** *(Завараты)*, **Сцепаніда Лупач** *(Завараты)*, **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Станіслава Пятліцкая** *(Баранавічы)*, **Марыя Талапіла** *(Зорка)*, **Ірына Ананьева** *(Верамееўка)*, **Катажына Шакель** *(Падворынка)*, **Ала Пятрова** *(Мёры)*, **Валянціна Пятрова** *(Мёры)*, **Марына Вішнеўская** *(Мёры)*, **Уладзіслаў Вішнеўскі** *(Мёры)*, **Андрэй Вішнеўскі** *(Мёры)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Альфрэда Меранкова** *(Віцебск)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Сафія Рагіня** *(Сарокі)*, **Тарэса Лешчык** *(Сарокі)*, **Эмілія Клепацкая** *(Сарокі)*, **Даната Сярогіна** *(Глыбокае)*, **Гэлена Саланінка** *(Глыбокае)*, **сям'я Клімза, Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Марыя Лубнеўская** *(Мядзел)*, **Галіна Драгун** *(Юркаўшчына)*, **Леакадзія Пазняк** *(Прусы)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Ганна Лук'янская** *(Пялікі)*, **Мар'ян Шляга** *(Драгічын)*, **Алена Махальская** *(Падсвілле)*, **Аліна Гайлеўская** *(Туркава)*, **Вера Беганская** *(Жары)*, **Аліна Бервячонак** *(Прусы)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Марыя Сяліцкая** *(Параф'янава)*, **Яўген Папроцкі** *(Ляхавічы)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Тэрэса Хвайніцкая** *(Руткевічы)*, **Яніна Парфяновіч** *(Шаркаўшчына)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб'е)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Часлаў Салодкі** *(Дзеркаўшчына)*, **Людміла Сушко** *(Докшыцы)*, **Данута Голубева** *(Бабінавічы)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Леакадзія Рамейка** *(Рамейкі)*, **Аліна Шакур** *(Вялікае Абаб'е)*, **Зоя Воранава** *(Шуміліна)*, **Даната Варанько** *(Друя)*, **Вераніка Васілеўская** *(Вялікае Абаб'е)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Тэрэса Смулько** *(Зорка)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Марыя Харнікава** *(Чарняўка)*, **Рэгіна Ціхая** *(Камарова)*, **Лілія Камінская** *(Глыбокае)*, **Браніслава Шакель** *(Браслаў)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Валянціна Маісеева** *(Сталіца)*, **Тэрэза Дулінская** *(Вазоўнікі)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Ядвіга Станкевіч** *(Віцебск)*, **Юзэфа Афанасенка** *(Полацк)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Эмілія Буйнова** *(Параф'янава)*, **Часлаў Юршэвіч** *(Мількі)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Часлаў Клімовіч** *(Мядзел)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Тэрэза Рулевіч** *(Браслаў)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Ванда Кузьміч** *(Глыбокае)*..

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета***
***"Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Адправіць ахвяраванне трэба па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

*Рэдакцыя*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Што падарыць Езусу на Яго Свята?

**Гэтыя святы Божага Нараджэння** *(аўтар размясціў дадзены артыкул на сваім сайце viartannie.org у 2016 г. –* **заўвага рэдакцыі КВ***)* **сталі для мяне нагодай задумацца над тым, чаму мне так не падабаюцца святы і ці ёсць сэнс святкаваць іх. Нейкія гадавіны, дні нараджэння, а нават і рэлігійныя святы. Я часта задаваў сабе пытанне, чым адрозніваецца дзень 25 снежня ад 26-га ці якога іншага? Часта мне думалася, што вось жа трэба радавацца ў святы, а радасці яны асабліва і не прыносяць. Дык у чым сэнс святаў і ці патрэбныя яны?**

### Не баяцца быць філосафамі

Найперш важна нам набрацца адвагі задаваць важныя жыццёвыя пытанні: дзеля чаго, які сэнс, навошта і г.д. Вельмі шмат рэчаў мы робім, не задумваючыся над іх сэнсам, бо так заўсёды было. Часта гэтыя рэчы не прыносяць вынікаў, не даюць плёну, але нам страшна нешта мяняць. Бо зноў жа – так заўсёды было… Страшна ад нечага адмовіцца, бо што падумаюць іншыя?.. А пытанні пра сэнс і пра мэты нашага жыцця і нейкіх дзеянняў маюць агромністае значэнне. Яны не дазваляюць нам каціцца па накатанай каляіне разам з усімі. Гэтыя пытанні дазваляюць нам не проста стаць філосафамі, а найперш быць людзьмі. Жывёлы не задаюць пытанняў пра сэнс святаў. Але ж яны – жывёлы, а не людзі. Я згодны, што такія пытанні часта ставяць нас у нязручнае, а можа, нават і складанае становішча. Пытанні пра сэнс жыцця даводзяць некаторых да алкагалізму, а некаторых нават да самагубства. Тым не менш гэтыя пытанні надаюць характар нашай чалавечай прыродзе. Я сказаў бы, што без іх жыць становіцца яшчэ больш небяспечна.

### Утоеная сіла помнікаў

Нехта вельмі трапна заўважыў, што цяжка зразумець сэнс святаў, калі мы не зразумеем сэнс помнікаў. Помнікі нагадваюць нам пра нейкую падзею: пра жыццё чалавека, яго дасягненні, пра гістарычнае здарэнне і г.д. Але найперш помнікі маюць выхаваўчы характар. Чаму ў многіх дзяржавах пасля таго, як мяняецца ўлада, адразу пачынаецца вайна з тымі ці іншымі помнікамі: адны руйнуюцца, а замест іх ставяцца іншыя? Гэты працэс выразна бачны ва Украіне, у Польшчы, у краінах Прыбалтыкі. Рэч у тым, што помнікі нейкай нябачнай сілай фармуюць нашую свядомасць, яны выхоўваюць нашае мысленне і аказваюць уплыў на маладое пакаленне. Заўважце, што пасля прыходу да ўлады бальшавікоў былі мэтанакіравана знішчаныя святыні. Многія кажуць: навошта гэта рабілі, гэта ж прыгожы помнік архітэктуры. А рэч не проста ў архітэктуры, а ў тым, што сцены святыні нагадвалі пра Бога, хоць у іх ужо даўно і не вялася Літургія. Святыня несла на сабе нябачную сілу, якую нясуць усе помнікі.

Адзін чалавек некалі сказаў мне, што і блізка не згаджаецца з поглядамі Леніна, але ён супраць таго, каб гэтыя помнікі руйнаваць, бо гэта фрагмент нашай гісторыі і культуры. Дык вось, калі ідзе размова толькі пра культуру, то можна з гэтым чалавекам пагадзіцца. Але калі пачнём гаварыць пра выхаваўчую ролю помнікаў для будучых пакаленняў, то, безумоўна, Леніну не месца ў нашых гарадах.

Гэтая ўтоеная сіла помнікаў была бачная ў Старым Запавеце. Пасля кожнай важнай сустрэчы з Богам нашыя патрыярхі веры ставілі ахвярнікі. З аднаго боку, так праяўляўся рэлігійны культ, але, з іншага, ахвярнікі выконвалі таксама і ролю помніка. Цікава, што Бог наказваў пракорам руйнаваць месцы паганскіх пакланенняў. Здавалася б, навошта? Можна было забараніць ідалапаклонства, а паганскія святыні ці дубравы няхай бы стаялі. Сёння там было б поўна турыстаў, якія захапляліся б культурай і гісторыяй… Тым не менш Бог наказваў руйнаваць. Цікава: чаму?..



### Святы як частка філасофіі помніка

Помнікі фарміруюць нашую свядомасць, выхоўваюць нас. Святы – адзін з элементаў такога фармавання. Вельмі прыгожа гэты элемент паказаны ў Торы Майсея: *“Если спросит у тебя сын твой в последующее время, говоря: “Что [значат] сии уставы, постановления и законы, которые заповедал вам Господь, Бог ваш?”,– то скажи сыну твоему: “Рабами были мы у фараона в Египте, но Господь вывел нас из Египта рукою крепкою; и явил Господь знамения и чудеса великие и казни над Египтом, над фараоном и над всем домом его пред глазами нашими” (Втор 6,20-22).*

Бог наказвае Майсею і габрэям святкаваць Пасху, але таксама яны павінны быць гатовымі растлумачыць пры гэтай нагодзе сваім дзецям сэнс свята. Габрэі павінны былі святкаваць не толькі Пасху. Яны мелі некалькі святаў, але ўсе гэтыя святы паказвалі на прысутнасць і асаблівае дзеянне Бога ў жыцці народа. Нават “шабат” нагадваў пра шэсць дзён тварэння Бога. Некаторыя звяртаюць увагу, што нават само слова “свята” гаворыць пра святасць Бога, г.зн. Яго асаблівае, непаўторнае дзеянне. Такім чынам, рэлігійныя святы былі не проста нагодай сустрэцца ў сям'і, а нагадвалі чалавеку пра Бога, у нейкім сэнсе змушалі чалавека адарвацца ад штодзённых абавязкаў і пайсці аддаць славу Богу. Напрыклад, на тры святы ў год кожны мужчына быў абавязаны адбыць пілігрымку ў Ерусалім. Святы для габрэяў мелі сапраўды выхаваўчы характар, яны накіроўвалі чалавека на асабістыя адносіны з Богам.

Такое значэнне рэлігійных святаў. Таму для мяне нічога дзіўнага, што бальшавікі адразу ліквідавалі ўсе рэлігійныя святы і на найвышэйшым партыйным узроўні вырашалі, якія святы будуць у савецкім грамадстве. Гэтыя новыя святы павінны былі выхоўваць цэлыя пакаленні, што, на жаль, і сталася.

### З пустымі рукамі ў госці не ходзяць

Каму-каму, а нам, беларусам, гэтая народная мудрасць добра вядомая. Толькі мала хто з нас ведае, што пост перад Божым Нараджэннем і Пасхай спрыяе таму, каб прыйсці да Бога не з пустымі рукамі, а з падарункам.

Цікава назіраць, як людзі дораць падарункі. Калі гэта блізкі і любімы чалавек, то мы і падарунак стараемся выбраць адпаведны. Часам трэба раскашэліцца, часам некалькі дзён падумаць, што падарыць. У любым выпадку трэба пастарацца. Калі ж мы дорым падарунак толькі для знаку (напрыклад, далёкай радні на вяселлі), то і падарункі часта адпаведныя…



Нешта падобнае адбываецца і з рэлігійнымі святамі. Гэта другі іх элемент. Яны не толькі выконваюць ролю помніка, не толькі фармуюць нашую свядомасць, але і з'яўляюцца знакам нашых адносінаў да Бога. Калі Абрагам ці Якуб ставілі ахвярнікі, то рабілі яны гэта для таго, каб на знак удзячнасці Богу скласці ахвяру з найлепшых жывёлаў. Праз прарока Малахію Бог абвінавачвае людзей, што яны складаюць ахвяры з калечаных жывёлаў: *“И когда приносите в жертву слепое, не худо ли это? Или когда приносите хромое и больное, не худо ли это? Поднеси это твоему князю, будет ли он доволен тобою и благосклонно ли примет тебя? Говорит Господь Саваоф” (Мал 1,8).*

Здавалася б, навошта Богу гэтыя ахвяры? І тым больш з добрых авечак? Сапраўды, выглядае больш лагічна, каб зарэзаць хворую авечку. Але не ў авечках сутнасць. Богу патрэбнае тваё сэрца. Ахвяры падчас розных святаў паказвалі адносіны верніка да Бога. Богу патрэбныя нашы падарункі, бо яны сведчаць пра нашую любоў да Яго. Такім чынам, святы вучаць нас дбаць пра любоў да Бога.

Богу патрэбныя нашыя падарункі. Але якія? Ён не патрабуе ўжо ахвяраў з жывёлаў, але патрабуе нас саміх. Мы самі для Яго ёсць найлепшым падарункам. Нашае пакаянне, навяртанне, служэнне Яму і г.д. Менавіта гэтаму служаць нашы пасты перад святамі. Яны павінны падрыхтаваць нас прынесці сябе ў падарунак Богу. Таму ёсць сэнс задаваць пытанне не пра колькасць з'едзенага мяса і прачытаных ружанцаў, а пра тое, якім мяне хоча бачыць Бог, што я для Яго магу зрабіць?..

### Свята пакланення Богу замест свята рэкламаў і традыцый

Калі мы добра прыглядземся да нашых святаў, то можа аказацца, што гэтых двух асноўных элементаў (характар помніка і падарунак для Бога) нам яўна не хапае. Нашыя традыцыі на Божае Нараджэнне даходзяць да таго, што мы больш таўчомся ў кухні, чым прабываем перад Богам у святыні. І калі раней бальшавікі ўсяляк нішчылі памяць (характар помніка) рэлігійных святаў, то сёння мы маем Божае Нараджэнне, але часта без Бога, без падарункаў Яму. Часта гэта багатыя святочныя сталы, ёлкі, падарункі, закупы ў крамах. Сёння мы кажам пра “Рождество”, вось толькі ці заўсёды памятаем пра Таго, Хто нарадзіўся? Замест Езуса часта перад намі – міфічныя эльфы, гномы, гірлянды, Санта Клаусы, ёлкі і г.д. Часам можна пачуць крыху паэтычнае словазлучэнне – “магия Рождества”. Але гэта ніякая не рамантыка, гэта нейкае суцэльнае непаразуменне.

Для многіх з нас будзе, мабыць, дзіўна пачуць, што насамрэч мы з упэўненасцю не можам назваць не толькі дзень нараджэння Езуса, але нават і месяц. Для першых хрысціянаў гэтае свята мела, хутчэй, багаслоўскае значэнне, чым гістарычнае. Яны праслаўлялі Бога за Ўцелаўленне, а святы ўстанавілі, хутчэй за ўсё, для таго, каб адвесці людзей ад паганскіх і ерэтычных поглядаў (напрыклад, ад пакланення сонцу 25 снежня).

Як жа нам вярнуцца да сапраўднага характару рэлігійных святаў? Як зрабіць, каб такія, як я, перасталі напружвацца з прычыны надыходу святаў, у каго даўно страціўся сапраўдны іхні сэнс? Напэўна, пытанне не з лёгкіх.

Духоўнае жыццё пачынаецца для нас тады, калі мы руйнуем нашых ідалаў, калі выкідваем старыя мяхі. Асабіста я бачу, што ў нашым жыцці няма зменаў да таго, пакуль мы з усіх сілаў спрабуем захаваць староцце, якое не прыносіць плёну. Гэта балючы працэс, але толькі ён прыносіць змены.

Магчыма, камусьці з нас некалі давядзецца рызыкнуць і абмяняць сталы, падарункі, ёлкі, гірлянды, сцэнкі ці яшчэ штосьці падобнае на пакланенне Богу.

*Айцец*
***Аляксандр Жарнасек,***
*марыянін*

ПАЗНАЁМ ХРЫСТА І ЯГО КАСЦЁЛ!

# ПАЗНАВАЙКА

Хвала Хрысту! Дарагі дружа, пакрысе падыходзіць да завяршэння Адвэнт – перыяд радаснага чакання прыйсця Збаўцы.

Сёння прапаную табе выканаць заданні, якія дапамогуць больш даведацца пра Божае Нараджэнне.

Ведаеш, як вітаюцца хрысціяне ў гэты перыяд? Я падкажу табе:



*– Хрыстос нарадзіўся!*

*– Славім Яго!*

## 1 ЗАДАННЕ

Ноччу з 24 на 25 снежня ў храмах Каталіцкага Касцёла адбываецца важная святая Імша. Назва гэтай літургіі паходзіць ад лацінскага слова pastor (пастух), бо першымі людзьмі, якім Анёлы абвясцілі цудоўную навіну пра нараджэнне Хрыста, былі бэтлеемскія пастухі, якія пасвілі непадалёк свой статак.

У гэтую ноч падчас Літургіі слова пачуем Евангелле ад Лукі 2, 1-14. Прачытай урывак, адкажы на пытанні крыжаванкі і даведаешся, як яшчэ называецца гэтая святая Імша.

1. Што загадаў зрабіць цэзар Аўгуст?
2. З якога роду быў Юзаф?
3. *Устаўце прапушчанае слова.* "І нарадзіла Сына свайго першароднага, і .... Яго, і паклала ў яслі, бо не было ім месца ў заездзе."
4. Хто быў побач у той ваколіцы?
5. Якое пачуццё ахапіла пастухоў?
6. *Устаўце прапушчанае слова.* "І сказаў ім анёл: Не бойцеся, я абвяшчаю вам .... радасць."
7. Што спявалі анёлы?




## 2 ЗАДАННЕ

Прайдзі лабірынт і дапамажы пастухам знайсці пячору, у якой нарадзіўся Езус Хрыстус.



## 3 ЗАДАННЕ

Складзі літары , што знаходзяцца ў шарыках, у правільным парадку і даведаешся, у якой краіне калядная елка з'явілася ўпершыню.




## 4 ЗАДАННЕ

Цудоўнай хрысціянскай традыцыяй з'яўляецца вігілійная вячэра. У гэты вечар за сталом збіраецца ўся сям'я. Галава сям'і чытае Евангелле пра Божае Нараджэнне, а потым прысутныя ламаюць аплатак, складаюць пажаданні адзін аднаму, спяваюць калядкі.

Размалюй ілюстрацыю і паразважай, якія стравы на вігілійны стол вы прыгатуеце ў гэтым годзе.



*Мастачка: **Вольга Будкіна**; ідэя: **Вікторыя Філіпенка***

# Дыяцэзіяльны конкурс батлеек адбудзецца ў Віцебску 5 студзеня 2024 г.

**Пачатак:** 10.00
**Арганізатар:** Віцебская дыяцэзія Рымска-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь.

Конкурс батлеек праводзіцца з мэтай умацавання хрысціянскіх традыцый і духоўна-маральных каштоўнасцей, спрыяе абмену творчым вопытам паміж калектывамі – ўдзельнікамі конкурсу, якія ёсць пры каталіцкіх парафіях, а таксама дае магчымасць развіваць творчы патэнцыял дзяцей і моладзі.

У конкурсе могуць прымаць удзел дзіцячыя і моладзевыя тэатральныя калектывы і групы, чыё творчае прадстаўленне адпавядае мэтам конкурсу.

Кампетэнтанае журы, у склад якога ўваходзяць духоўныя асобы, вядучыя дзеячы тэатральнага мастацтва вылучыць пераможцаў конкурсу паводле І, ІІ і ІІІ ступеняў. Вынікі конкурсу будуць аб'яўленыя на ўрачыстай цырымоніі ўзнагароджання.



**Патрабаванні:**
- агульная працягласць спектакля не павінна перавышаць 20 хвілін;
- спектаклі, заяўленыя для ўдзелу ў конкурсе, павінны адпавядаць яго мэтам і задачам, мець высокамастацкі ўзровень.
- духоўна-маральны змест спектакля;
- эстэтычны від сцэнаграфіі, які спалучаецца з тэматыкай прадстаўлення (афармленне, вобразы, касцюмы актораў);
- культура выканальніцкага майстэрства, выразнасць, артыстычнасць;
- мастацкая цэласнасць спектакля.

Запіс па тэл.:
**+375 29 74 232 78** - с. Марыя

# Каляндар на студзень 2024

**1** студзеня – Урачыстасць Святой Багародзіцы Марыі.
**2** студзеня – успамін св. Базыля Вялікага і Грыгорыя Назіянзскага, біскупаў і доктараў Касцёла.
**3** студзеня – успамін Найсвяцейшага Імя Езус.
**6** студзеня – Урачыстасць Аб'яўлення Пана (Тры Каралі).
**13** студзеня – успамін св. Гілярыя, біскупа і доктара Касцёла.
**17** студзеня – успамін св. Антонія, абата.
**20** студзеня – успамін св. Фабіяна, папы і мучаніка, успамін св. Себасцьяна, мучаніка.
**22** студзеня – успамін св. Вінцэнта, дыякана і мучаніка.
**24** студзеня – успамін св. Францішка Сальскага, біскупа і доктара Касцёла.
**25** студзеня – свята Навяртання святога Паўла, апостала.
**26** студзеня – успамін св. Цімафея і Ціта, біскупаў.
**27** студзеня – успамін бл. Юрыя Матулевіча, біскупа.
**29** студзеня – успамін бл. Баляславы Марыі Лямэнт, панны.
**31** студзеня – успамін св. Яна Боска, святара.

# Што паглядзець?

## Фільм "Залатыя рукі: гісторыя Бэна Карсана"

**У 1987 годзе адбылася ўнікальная падзея для ўсёй медыцыны, асабліва для нейрахірургіі. Каманда спецыялістаў пад кіраўніцтвам Бэна Карсана ажыццявіла аперацыю, падчас якой адмысловцы паспяхова раздзялілі двух сіямскіх блізнят з агульным мозгам.**




Увогуле нейрахірург Бэн Карсан праводзіў каля 400 аперацый на мозгу ў год, а таксама займаўся навуковай дзейнасцю, быў прафесарам у сферы анкалогіі і пластычнай хірургіі.

У 2009 годзе на экраны выйшла кінастужка "Залатыя рукі" (англ. Gifted Hands: The Ben Carson Story). На першы погляд, звычайны біяграфічны фільм, заснаваны на рэальных падзеях. Але насамрэч стужка нашмат больш глыбокая, чым проста біяграфія знакамітага нейрахірурга.

Галоўны герой – Бэн Карсан – прадстаўлены гледачу звычайным падлеткам са звычайнай амерыканскай школы. У такіх школах нармальным лічыцца факт, што дзеці з цёмнай скурай дрэнна вучацца і маюць праблемы з паводзінамі. Бэн – не выключэнне. Хлопец жыве з маці і братам у вельмі сціплых умовах, пераязджае з аднаго горада ў іншы, мае вялікія праблемы з навучаннем і засвойваннем школьнага матэрыялу.

Але побач з ім маці. Угледаючыся ў вобраз гэтай жанчыны, разумееш, што стужка таксама і пра яе. Соня Карсан – асоба з сапраўдным залатым сэрцам і залатым характарам. Яе жыццё было зусім няпростым. Соня неадукаваная, не ўмее нават чытаць, але знаходзіць словы, каб дапамагчы сынам не спыніць навучанне, знаходзіць спосабы, як у гэтым навучанні дапамагчы і як абараніць хлопцаў у свеце жорсткіх людзей і балючых стэрэатыпаў. У дзённіках жанчыны чытаецца сапраўдная матчына любоў, ахвярнасць і адданасць дзецям.

З самага дзяцінства Бэн мае акрэсленую мару: ён хоча стаць нейрахірургам. І гэта пачатак новай старонкі ў яго жыцці. Цяжкасці не змяншаюцца, бо кожны раз трэба засвойваць шмат матэрыялу, а гэта вельмі складана для хлопца. Яму даводзіцца прыдумваць новыя і новыя спосабы падрыхтоўкі да экзаменаў. Дзіўна, але яны вельмі цікавыя і паспяховыя.

Бэн выдатна заканчвае ўніверсітэт і становіцца нейрахірургам. Новая гісторыя, новыя крокі, новыя выпрабаванні... Малады і смелы мужчына не баіцца ўзяць на сябе адказнасць і праводзіць цяжкія, часта ўнікальныя аперацыі.

З аднаго боку, кінастужка раскрывае вобраз таленавітага лекара, а з іншага – паказвае, як важна марыць, як важна бачыць мэту і як важна рабіць усё, каб гэтай мэты дасягнуць, ісці наперад, не спыняцца.

Над фільмам працавала каманда на чале з рэжысёрам Томасам Картэрам і сцэнарыстам Джонам Пілмейерам. Здаецца, у іх атрымалася раскрыць і яшчэ адну таямніцу поспеху: паказаць людзей, якія стаяць за плячыма ў таленавітага чалавека. У выпадку Бэна Карсана – гэта дзве простыя жанчыны – маці і жонка. Менавіта яны сталі апорай і крыламі, ціхімі і нябачнымі, але такімі важнымі і значнымі.

Прагляд фільма матывуе не толькі імкнуцца да мэты, але і сказаць родным людзям, як моцна вы іх любіце.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Філіпенка***

# Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі
*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў
(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага аператара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на "Каталіцкі Веснік", Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Больш навін, здымкаў і відэа на нашым сайце**
**Catholicnews.by**



**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**
1 – А; 2 – В; 3 – Б; 4 – В; 5 –А; 6 – А; 7 – Б; 8 –В; 9 – Б; 10 – А

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рымска-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рымска-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 6311

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2300 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 18.12.2023 г. у 8.20

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь